


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

22 лістапада 2002 года

№ 47 (396)

Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

# Смерць пад Маладзечнам

## Украінскі медыямагнат Міхаіл Каламіец павесіўся ў лесе каля Вязынкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэдактар і ўладальнік паловы акцый інфармацыйнага агенцтва "Украінскія навіны" Міхаіл Каламіец, які знік 21 кастрычніка, павесіўся ў лесе непадалёк ад Вязынкі, каля садовага таварыства "Гарызонт".**

Гэта ўстанавілі на гэтым тыдні работнікі беларускай і украінскай міліцыі і пацвердзілі сваякі Каламійца, якія ў сераду прыехалі ў Маладзечна для апазнання цела.

21 кастрычніка Міхаіл Каламіец не з'явіўся на работу. Супрацоўнікі агенцтва напісалі заяву ў міліцыю. Спецыялісты праваахоўных органаў Украіны вылічылі, што 23 кастрычніка Каламіец прыехаў у Мінск. З 25 па 28 кастрычніка М. Каламіец жыў у маладзечанскай гасцініцы, пасля чаго яго сляды згубіліся. З 29 кастрычніка Каламійца пачаў шукаць Інтэрпол. 30 кастрычніка ў лесе знайшлі труп невядомага мужчыны, які правісеў у пятлі некалькі дзён. Экспертыза ўстанавіла, што мужчына павесіўся па сваёй волі.

Прайшло два тыдні. У міліцыю за целам ніхто не звяртаўся і 14 лістапада мужчыну пахавалі на гарадскіх могілках у Лазаўцы. На крыжы напісалі "неапазнаны" і дату пахавання.

У Маладзечне Міхаіл Каламіец раней ніколі не быў, сваякоў тут у яго таксама няма. Матыў, па якім журналіст развітаўся з жыццём, невядомы. Найбольш верагодным супрацоўнікі міліцыі Беларусі і Украіны лічаць непаразуменні з нявестай. Маці забрала цела сына для пахавання на Радзіме.

За апошнія два гады гэта трэцяя смерць украінскага журналіста. У 2000-м годзе прапаў журналіст Георгій Гангадзе. Пазней яго абезгалоўленае цела знайшлі ў лесе каля Кіева. А ў 2001 годзе пабілі да смерці дырэктара тэлекампаніі, якая знаходзіцца ў Данецкай вобласці, Ігара Аляксандрава.

Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.




**Вечарам у аўторак журналістка тэлеканала ОНТ Кацярына Кібальчыч разам з карэспандэнтам "РГ" былі першымі журналістамі ля магілы украінскага медыямагната Міхаіла Каламійца на маладзечанскіх гарадскіх могілках у Лазаўцы.**

**У сераду цела Міхаіла Каламійца эксгумавалі ў прысутнасці супрацоўнікаў праваахоўных органаў Беларусі і Украіны. Маці і нявеста М. Каламійца, якія прыехалі на могілкі, апазналі яго. Украінскага журналіста перазахаваюць на радзіме.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Навіны рэгіёна

### Музей імя Корзуна

АШМЯНЫ. Гісторыка-краязнаўчаму музею Гальшанскай сярэдняй школы прысвоена імя Эдуарда Корзуна.

Эдуард Корзун памёр у 2000 годзе. Быў настаўнікам і дырэктарам гэтай школы, адным з заснавальнікам музея. Эдуард Корзун быў вядомым у раёне гісторыкам і краязнаўцам.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Прызнаўся праз 10 гадоў

ВІЛЕЙКА. На гэтым тыдні Вілейская міжраённая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да жыхара горада, які прызнаўся, што 5 снежня 1992 года забіў бацьку.

Зрабіў ён гэта некалькімі ўдарамі нажа з мэтай абараніць маці. Пасля з жонкай і маці цела ахвяры закапалі каля новых вілейскіх могілак.

Забойца тлумачыць яўку з павіннай згрызотамі сумлення. Раскапаныя рэшткі чалавека ў месцы, паказаным сынам і маці, пацвердзілі сапраўднасць прызнання.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Вандалам – штраф у 100 тысяч

СМАРГОНЬ. Суд прызначыў двум мясцовым і аднаму маладзечанскаму падлетку штраф у 100 тысяч рублёў кожнаму за вандалізм.

Летам тройка непаўналетніх зруйнавала 8 надмагільных плітаў на могілках у мікраралёне Карані. Хлопцы прызналіся, што не ведалі, чаму гэта зрабілі. Прыйшлі на могілкі, каб даказаць сабе, што ім не страшна.

Таццяна СКАРЫНКІНА.

### Другі прэзідэнт школы

АСТРАВЕЦ. У СШ №2 райцэнтра другі навучальны год запар выбралі прэзідэнта. Ім стаў 11-класнік **Ігар Сакалоў**. Першы прэзідэнт школы **Уладзімір Кутко** цяпер вучыцца ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Новы магазін

ВАЛОЖЫН. Учора на месцы магазіна "Пеўнік" Івянецкага племптушказавода адкрыўся магазін раённага вузла паштовай сувязі (РВПС).

Паштавікі выкупілі памяшканне пасля самаліквідацыі "Пеўніка". Раней магазін РВПС месціўся ў прыстасаваным памяшканні ў будынку РВПС.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Вядомы і невядомы Будслаў



Юзэфу Альшэўскую добра ведаюць у Будславе. Яна першая там майстрыха. Будслаў яшчэ вядомы знакамітым фэстам. Кожны год 2 ліпеня сюды на фэст ідуць беларусы і іншаземцы.

5-я старонка

### Новыя ідэі Бадзеева



Новы загадчык аддзела адукацыі Вілейскага райвыканкома Уладзімір Бадзееў расказвае аб сваіх ідэях. Адна з іх – стварэнне фонду, у які пойдуць 2% ад настаўніцкіх зарплат.

7-я старонка

### «Пілігрыму» – 25 гадоў



Заўтра ў Маладзечне адзначаць 25-годдзе турклуба "Пілігрым". Пра турысцкія будні расказвае прэзідэнт клуба Сяргей Бялкоў.

9-я старонка

■ МІНУЛАЕ

# Вакацыі з Рушчыцамі

**Жыццё – хуткаплынная рэч. Нас носіць па свеце, але заўсёды цягне дадому. Не выключэнне і нашчадкі знакамітага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца. Амаль кожны год яны прыязджаюць у Багданава, што на Валожыншчыне. Тут іх чакаюць.**

Гэта вельмі прыстойныя і адукаваныя людзі. Эдвард, сын мастака, чалавек ужо сталага ўзросту. Але яму гэта не перашкаджае з Польшчы цікавіцца праблемамі мястэчкоўцаў. У 1999 годзе ў Багданаве прайшоў плэнер мастакоў Беларусі. Ганаровымі гасцямі на ім былі нашчадкі мастака.

Не пакідаюць яны без увагі і нашую таленавітую моладзь. **Марына Амілаўская**, якая аднавіла радавод мастака, была запрошана на вакацыі ў сям'ю Эдварда і Крысціны Рушчыцаў. Тыдзень у Варшаве прайшоў імгненна.

Вярнуўшыся адтуль, яна адказала на некаторыя пытанні "Рэгіянальнай газеты":

**— З чаго пачалася цікавасць да гэтага роду?**

— Пачаткам стала мая бабуля, што працавала пакаёўкай у мастака, выдатна ведала ўсю сям'ю Рушчыцаў і вельмі цаніла іх як гаспадароў і людзей. І, канешне, шмат аб чым расказвала.

**— Ці часта бачыцеся?**

— Яны прыязджаюць на Беларусь кожны год, але імя мастака загучала толькі пасля плэнеру мастакоў у Багданаве.

**— Пра Фердынанда Рушчыца амаль не знайсці звестак у сучаснай беларускай літаратуры па мастацтвазнаўству. Як справы за мяжой?**

— Сапраўды, з яго работ толькі адна знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі Рэспублікі Беларусь. Гэта палатно "Ля касцёла", напісанае ў 1899 годзе. Выявы ж іншых выстаўляюцца ў мастацкіх галерэях замежжа. Мо' пагэтаму пра талент мастака зараз і не гавораць?

**— Якія ж выставы праходзілі ў Польшчы?**

— Сын і ўнук мастака клапоцяцца аб перадачы вопыту продка. І гэтым летам у Нацыянальным мастацкім музеі ў Варшаве праходзіла выстава яго твораў. Паглядзець на яго работы прыязджалі прыхільнікі з многіх краін свету. Асабліва ўражвала палатно "Зямля".

**— Многія з палотнаў знаходзяцца ў сямейным архіве. Ці бачылі Вы што з гэтага?**

— Так, гасцей гэтай сям'і фатаграфуюць каля аўтапартрэта мастака, падкрэсліваючы значнасць яго асобы. Хоць дасягненні кожнага ў жыцці немалыя. Напрыклад, Фердынанд, унук і адзіны нашчадак роду, працуе дырэктарам Нацыянальнага музея ў Варшаве. Паглядзела і на багданаўскія мясціны. Гэта было асабліва цікавым, бо я сама нарадзілася і вырасла ў Багданаве.

**— Што яшчэ цікавага прывезлі з гасцей?**

— Прывезла шмат каляровых рэпрадукцый малюнкаў мастака, якія напісаны ў Багданаве. Напрыклад, "Крыж у снезе", Багданаў, 1902 г.; "Вясна", Багданаў, 1897 г.

Зрабілі гаспадары і падарунак у выглядзе запісаў класічнай музыкі, літаратуры па мастацтвазнаўству. Ды і выступілі фундатарамі гэтай паездкі.

**— Ці будзе ў гэтай гісторыі са шматлікімі трагедыямі ў пачатку добры фінал? Ці здатныя гэтыя людзі вярнуцца да магілаў продкаў, каб зрабіць радзіму больш прыгожай?**

— Гэта залежыць ад нас з вамі. А пакуль мы зноў чакаем іх у сябе, каб сустрэць як дарагіх гасцей. А рабіць радзіму прыгожай павінныя мы з вамі.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**



Мастак Фердынанд Рушчыц са сваёй жонкай Рэгінай. 1915 год. Архіў "РГ".

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Вілейскі раён у друку

**ВІЛЕЙКА. Хто ж ён – чытач Вілейкі, Вілейшчыны, якімі клопатамі жыве?**

Вілейская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма аб'ядноўвае 59 масавых бібліятэк, у якія наведваюцца каля 31 тысячы чалавек. Кніжны фонд – каля 560 тысяч асобнікаў. Звыш 141 тысячы кніг – на беларускай мове.

Спецыялісты аддзела абслугоўвання і інфармацыі цэнтральный раённай бібліятэкі выпускаюць краязнаўчы бібліяграфічны паказальнік "Вілейскі раён у друку".

Бібліёграфы лічаць, што паказальнік дапаможа глыбей вывучыць родны край. З яго дапамогай бібліятэкары змогуць прасачыць за навінкамі краязнаўчай літаратуры. У паказальніку падаецца інфармацыя пра публікацыі ў перыядычным друку.

Зазірнём, напрыклад, у выпуск, які аглядае публікацыі пра Вілейку ў 2001 годзе (склалі яго Т.Маліноўская і А.Летка). Прааналізавана больш за дзесятак перыядычных выданняў, у тым ліку і "Рэгіянальная газета".

Асобна ў паказальніку вылучаны раздзел "Гісторыя краю". Няма сумненняў, што выданне "Вілейскага раёна ў друку" – справа карысная і патрэбная, неабходная як бібліятэкарам, так і чытачам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ МІНУЛАЕ

# Пераемнік Мазепы з Касуты

**ВІЛЕЙКА. Рэдкі школьнік не ведае пра ўкраінскага гетмана Мазепу, які падчас вайны рускіх са шведамі перайшоў на бок шведаў. Але мала каму вядома, што пасля смерці Мазепы гетманам стаў ураджэнец Вілейшчыны Піліп Орлік.**

Піліп Орлік нарадзіўся ў невялікай вілейскай вёсачцы Касута ў 1672 годзе.

У Вілейку зазірнулі актывісты беларускага аб'яднання ўкраінцаў "Ватра". Яны выступаюць ініцыятарамі ўстаноўкі ў Касуце помніка ўкраінскаму дзяржаўнаму дзеячу Піліпу Орліку. Падрыхтаваны ўжо і праект.

Вось што піша пра Орліка рускі гісторык Н.Кастапараў у кнізе "Мазепа": "Пасля смерці Мазепы, па волі караля, казакі павінныя былі выбраць сабе гетмана. Але галасы падзяліліся... Аднак быў выбраны Піліп Орлік, бо яму спрыяў шведскі кароль, які прыхільна ставіўся да Вайнароўскага, але пасля зразумеў, што Вайнароўскага не абяруць, бо малады. Новага гетмана ў яго званні маглі прызнаваць толькі адны чужыя людзі – шведы ды нямногія казакі, якія знаходзіліся з ім у выгнанні, паколькі ў валадаранні яго не было ніводнага".

Орлік, як і Мазепа, — герой пушкінскай "Палтавы". У каментарыях да паэмы паэт напісаў: "Піліп Орлік, генеральны пісар, наперснік Мазепы, пасля смерці (у 1710 годзе) апошняга атрымаў ад Карла XII пусты тытул ... Маларасейскага гетмана. Пасля прыняў магаметанскую веру і памёр у Бендэрах пасля 1736 года". Дарэчы, па версіі Пушкіна, Орлік спрабаваў угаварыць Мазепу вярнуцца пад крыло Пятра І.

Але ўжо зусім іншым стаў Орлік, калі быў абраны няхай сабе і "пустым", але ўсё ж такі гетманам. Удзельнічаў у паходзе крымскіх татар ва Украіну. Жыў у Швецыі, Германіі, Польшчы, Францыі, Турцыі.

Дырэктар Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея **Валянціна Лапко** расказвае, што на Вілейшчыне памятаюць Піліпа Орліка. Артыкул для раённай гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" падрыхтаваў гісторык і пазаштатны аўтар "РГ" **Міхась Чарняўскі**.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

## У Маладзечне збудавалі школу, але малую

Молодэчна, Вилейск. пав. Збудавали тут новы будынак для школы – з казённага леса.

Але–ж будынак выйшоў вельми малы; вылічали раней, што ў гэтай школе будзе вучыцца 85 вучнёў, а зьявилася на навуку 117, вось цяпер и цяжка им вучыцца у цясноци, нима як и гдзе писаць. Дый лаўки для дзяцей зроблены залишне малые, невыгодне сидзець на их и шкодна для здароўя."Строительная комиссия" не дагледзела гэтаго, а тым часам канешне трэба–бы перарабиць тые лаўки

Вучни Вучыцельскай Семинарыи надта рады, што ўжо нима старога директара, аб каторым нават у газетах писали. Новы дырэктар абходзицца з вучэниками дэликатне, никому не скажэ «ты», але кажэ «вы». За им так сама робяць и ўсе вучыцели. Адзин тольки вучыцель заявиў, што ён ня можэ адвыкнуць ад старога парадку и кинуць гаварыць вучням «ты». Тады вучэники написали яму заяўлене, што на «ты» яны не згаджаюцца. Пасьля гэтаго той вучыцель стаў рабиць тое, як и другие.

**Язэпъ**

## У Лебедзеве шырыцца п'янства

Мяст. Лебедзево Вилейск. пав. Ў нашым мятэчку за апошни час пачало вельми шырыцца пьянство.

Праўды, што и даўней нашы мужыки ад гарэлки не адрэкалися, але–ж цяпер дык так пьюць,як николи не бывала. Бо–ж и выгода для пьянюг настала: настроили тутака новы «тракцир» и тры «пиўные лаўки». Йосць гдзе разгуляцца: мужык астатнюю капейку цягне с хаты, кидаючы дзяцей ды жонку бицца ды варочаецца дамой з разбитай галавой, акрываўлены..

У Финляндыи народ разумнейшы: сейм (дума) забараниў прадаваць гарэлку, хиба тольки дастанеш для хвораго у аптэцы.

**И. С.–Д.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками «Наша нива». № 34 ад 23 наябра 1907 года**

 



■ ГАНДАЛЬ

# Абверглі матэматыку

## Пасля таго, як прадпрымальнікі абмяняліся месцамі, адзін з іх штотыдзень губляе 1,5 мільёна рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА. 1,5 мільёна рублёў у тыдзень – такая цана канфлікту паміж двума прадпрымальнікамі, якія працуюць у кілбасным павільёне на рынку райспажыўтаварыства.**

Летам цэнтр гігіены і эпідэміялогіі сваім распараджэннем ліквідаваў частку вітрын у павільёне. Адміністрацыя рынку вырашыла шчыльней паставіць вітрыны па перыметру павільёна, каб даць работу ўсім прадпрымальнікам. Пераставілі вітрыны і працавалі далей. 16 кастрычніка прадпрымальнік **Саламея Сабачэўская** прыйшла раніцай на сваё рабочае месца №36 і ўбачыла, што яно занятае прадаўцом іншага прадпрымальніка **Лідзіі Кваткоўскай**.

На якой падставе Кваткоўская заняла "хлебнае" месца №36? В.а. дырэктара рынку **Ганна Сіняўская** паказала заяву Кваткоўскай на імя былога дырэктара рынку **Аляксея Уварава**. У ім прадпрымальнік дае права адміністрацыі рынку да 15 кастрычніка карыстацца ўласнай вітрынай Кваткоўскай. Ёсць чэк аб аплаце Кваткоўскай арэнды гандлёвага месца №36 з 16 кастрычніка. У той час Сабачэўскай на кастрычнік выпісалі абанемент без указання нумара месца. Але на заяве Кваткоўскай няма даты, і калі дакумент быў напісаны, невядома.

Кваткоўская прапанавала Сабачэўскай перайсці на сваё рабочае месца. Праз тыдзень прадпрымальнікі памяняліся месцамі.



**Па іроніі лёсу прадаўцы Алена Шмялёва і Лілія Якуновіч, якія гандлююць побач у кілбасным павільёне на рынку райспажыўтаварыства, працуюць у прадпрымальнікаў, якія канфліктуюць паміж сабой.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Месца №36 знаходзіцца па цэнтры, пакупнікі больш ідуць туды. Новае месца Сабачэўскай у самым куце. Да яго такі вузенькі праход, што ў базарныя дні туды не дабрацца. У выніку перамены месцаў Саламея Сабачэўская штотыдзень губляе 1,5 мільёна рублёў выручкі. Гэта пацвердзіла і прадавец **Алена Шмялёва**, якая працуе на найме ў Сабачэўскай.

Калі рыхтаваўся гэты матэрыял, у рэдакцыю патэлефанавала в.а. дырэктара рынку Ганна Сіняўская і патрабавала тлумачэнняў, чаму карэспандэнт працаваў на кілбасным павільёне без дазволу адміністрацыі рынку. На заўвагу рэдактара **Аляксандра Манцэвіча** аб тым, што рэдакцыя не мусіць расказваць аб сваіх творчых планах, а карэспандэнт у публічным месцы можа працаваць без чыйгосьці дазволу, Ганна Сіняўская сказала, што ведае, пра што будзе напісаны матэрыял, і яна гатовая напісаць абвяржэнне і падаць на рэдакцыю іск у суд.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Захоўваць рублі стала нявыгадна

**Нацыянальны банк краіны ў чарговы раз знізіў (да 38%) свае галоўныя стаўкі.**

Несумненна, што гэтае рашэнне падсцёбне ўсе банкі таксама зменшыць стаўкі даходу па сродках грамадзян. У параўнанні з пачаткам года яны і так ужо знізіліся ў два разы – з 75-80% у студзені да цяперашніх 36-38%, што дае толькі 3% даходу ў месяц. Інфляцыя за студзень-кастрычнік склала больш за 27%, г.зн., цэны раслі ў сярэднім на 2% у месяц. У выніку ад захоўвання грошай у нацыянальнай валюце атрымліваецца ўсяго 1% даходу. Вывад можа быць толькі адзін – захоўваць грошы ў беларускіх рублях ужо становіцца нявыгадна. Пацвярджае гэта і статыстыка. Калі ў пачатку года прырост укладаў складаў 15% у месяц, то да жніўня ён упаў у тры разы, да 5%, а да канца года і зусім зніхне. Звычайна вялікія траты ў асенне-зімовы перыяд не дазваляюць знаходзіць сродкі для зберажэнняў. Ды і магчымасцяў заробку і атрымання дадатковых даходаў зімой менш. У дадзеных умовах падзення даходнасці рублёвых дэпазітаў уклады ў замежнай валюце могуць аказацца больш прываблівымі. Стаўкі па іх знаходзяцца на ўзроўні 8%, але ёсць перавагі (афармленне за беларускія рублі без пашпарта), што выклікае цікавасць да іх насельніцтва. Важна і надзейнасць укладаў, г.зн. гарантыя вяртання.

Пакуль у нашай краіне выплачваюцца ўсе ўклады — нават на некалькіх крэдытна-фінансавых установах, якія сталі банкрутамі, дзяржава прыняла даўгі на сябе. Нідзе ў свеце такой практыкі няма (звычайна выплачваецца не больш 75-80% укладаў на суму не больш за 20 тысяч еўра).

Парады патэнцыяльным інвестарам простыя – зімовыя месяцы ў краіне заўжды характарызаваліся скачком росту цэн. Гэта ж будзе і ў гэтым годзе, толькі за кастрычнік падскочылі цэны на 1,7%, за тавары і паслугі прыходзіцца плаціць даражэй. Банкаўскія дэпазіты ў гэтыя месяцы, у крайнім выпадку да сакавіка наступнага года не прынясуць даходу – долар будзе расці хутчэй, чым выплачвацца працэнты (курс за апошні месяц падрос на 45 рублёў), што прывядзе да стратаў. Тым больш, што далейшае падзенне беларускага рубля захаваецца дастаткова высокім – у апошні месяц года адзнака ў 1980-2000 рублёў за долар будзе пераадолена.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**



**Несці рублі ў банкі стала нявыгадна – банкаўскі працэнт ледзь перакрывае інфляцыю.** Фота IREX/ProMedia.

## Курсы валют НБ РБ

| | 14.11 руб. | 21.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1890,00 | **1895,00** |
| Еўра | 1904,18 | **1898,79** |
| Злоты | 481,30 | **483,12** |
| Літ | 551,31 | **549,97** |
| Расійскі рубель | 59,40 | **59,55** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1890/1920 | **1890/1920** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.11 | 20.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | **10980** |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | **2300** |
| Рыс, 1 кг | 700 | **700** |
| Грэчка, 1 кг | 780 | **800** |
| Цукар, 1 кг | 865 | **865** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1380 | **1380** |
| Алей, 1 л | 2000 | **1550** |
| Маянэз, 200 г | 400 | **400** |
| Кава «Пеле, 100 г | 1900 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 580 | **600** |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | **700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | **580** |
| Капуста, 1 кг | 400 | **400** |
| Морква, 1 кг | 400 | **300** |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | **2000** |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | **1500** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 700 | **700** |
| Смятана, 1 л | 2000 | **2000** |
| Масла, 1 кг | 4200 | **4000** |
| Тварог, 1 кг | 2200 | **2200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | **1300** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | **750** |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### Літоўцы будуць цвярозыя

**АСТРАВЕЦ.** Дзве спробы перапраўкі гарэлкі, каньяку і спірту выявілі астравецкія памежнікі. У першым выпадку на нейтральнай паласе паблізу пункта перасячэння "Лаца" знайшлі 38 бутэлек з гарэлкай, віном, каньяком і 14 блокаў імпартных цыгарэт. Затым памежным нарадам на лініі дзяржаўнай мяжы ля вёскі Апушына Кямелішскага сельсавета выявілі 61 каністру са спіртаўтрымліваючай вадкасцю.

У пагранічнікаў ёсць усе падставы меркаваць, што гэтая кантрабанда была падрыхтаваная для перапраўкі ў Літву, але цяпер яе перадалі ў мясцовы аддзел міліцыі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Саломка ў «Аўдзі»

**АШМЯНЫ. Работнікі Ашмянскай міліцыі падчас рэйду спынілі машыну "Аўдзі-100".**

У аднаго з пасажыраў, 31-гадовага ашмянца, знайшлі пакет, у якім знаходзіліся 2,3 кілаграма макавай саломкі. Гэты тавар пасажыр купіў у раней судзімага ашмянца.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ГАСТРОЛІ

### Афанасьева не прыехала

**СМАРГОНЬ. Не адбыўся канцэрт эстраднай спявачкі Іны Афанасьевай, які быў запланаваны на мінулым тыдні.**

Білеты коштам 5 тысяч не карысталіся попытам у смаргонцаў. Яны купілі 38 квіткоў. Зала Дома культуры, дзе павінны адбыцца канцэрт, умяшчае 460 чалавек.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

 

■ ПАДПІСКА-2003

## «Маяк» справаводства

У рэгіёне камплектавання занальнага дзяржархіва Маладзечна 249 прадпрыемстваў і ўстаноў, што здаюць дакументы на дзяржаўнае захоўванне, а прыватных і долевых — каля 2 тысяч. Але і смех, і парадокс: памочнік-даведнік "Архівы і справаводства" адказным за ведамасныя архівы і справаводства выпісвалі сёлета менш за 40 суб'ектаў гаспадарання. На паўгода ж яе кошт усяго 33600 рублёў. Падпішыцеся, і вы атрымаеце цікавага дарадцу-субяседніка. На старонках часопіса пастаянна друкуюцца навіны справаводства, парады і тлумачэнні, як лепш выказаць тое ці іншае патрабаванне кіруючых дакументаў і інструкцый, існуючых стандартаў Рэспублікі Беларусь, цікавыя гістарычныя факты-дакументы і нават... кулінарныя рэцэпты.

А 4 гады таму на падставе рашэння Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь быў створаны Дзяржархіўнагляд. Служба маладая і не ўсе, нават кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў, ведаюць аб яе існаванні. Адна з яе функцый: кантроль за захаваннем дакументаў і вядзеннем справаводства. Новай службе дадзены і немалыя паўнамоцтвы, нават... штрафы ад 5 да 100 мінімальных зарплат. Каб пазбегнуць непрыемнасцяў, хваляванняў і непаразуменняў, на многія пытанні дасць адказ часопіс "Архівы і справаводства".

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, архівіст занальнага архіва ў Маладзечне.**

■ ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ

## Маша і Мядзведзь

Нам усім так хочацца, каб у нас быў сапраўдны сябар, з якім можна па нядзелях піць гарбату з мёдам, граць на балалайцы, танчыць або пайсці ў лес па грыбы і ягады. Вось так і Міхайла Патапавіч разважаў. А Маша вельмі хацела вярнуцца дадому, дзе яе чакаюць дзядуля з бабуляй, бо яны старэнькія і ім адным цяжка. Як знайсці выйсце? Разам знойдзем!

Прыходзьце 23 лістапада. Пачатак а 12-й гадзіне.

## Меч Анёла

У аснове пастаноўкі – калядная гісторыя аб нараджэнні Ісуса Хрыста і аб спробах цара Ірада загубіць сына Божага, уласцівая традыцыям народнай батлейкі. Аўтар, аднак, парушае кананічны ход падзей і прапануе сваю версію.

Нарадзіўся Хрыстос! Для пакланення прыходзяць пастухі, якія вельмі ўзрушаны гэтай падзеяй. Аднак ёсць цар Ірад, які ўсхваляваны па іншых абставінах. Каб вырашыць усё, ён выклікае да сябе чарнакніжніка. На гэта чарнакніжнік прапануе цару за вечнасць аддаць сваю душу. Той згаджаецца і разам з тым загадвае ўчыніць расправу над немаўлятамі. Але ж нічога не атрымліваецца, бо на дапамогу святому сямейству прыходзіць Анёл, які карае сваім мячом чарнакніжніка. А Ірада прыходзіць пакараць сама Смерць.

Пачатак спектакля 24 лістапада а 12-й гадзіне.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

# Кулібін з Мыслевічаў

## Настаўнік зрабіў з запчастак ад няспраўнай тэхнікі унікальны аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета настаўнік Мыслевіцкай базавай школы Аляксандр Цярэшка разам з навучэнцамі сабраў унікальны аўтамабіль.**

Незвычайны ён спосабам кіравання. Руля няма, газаваць і тармазіць трэба левай рукой з дапамогай "джойсціка". А колы паварочваюцца ўправа-ўлева... нагамі.

На аўтамабілі ездзяць вучні малодшых класаў. Ён абсалютна бяспечны, таму на ім добра вывучаць асновы ваджэння. Знешнім выглядам падобны на картынг, прынцыпам работы – на аўтамабіль, спосабам кіравання – на самалёт. Развівае хуткасць да 65-ці кіламетраў у гадзіну. Сядзенне і кіраванне наладжана так, што зручна ехаць і падлетку, і дарослаunion – не трэба вялікіх фізічных намаганняў.



**Настаўнік Мыслевіцкай базавай школы Аляксандр Цярэшка дэманструе магчымасці унікальнага аўтамабіля ўласнай канструкцыі.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Задума зрабіць такі аўтамабіль узнікла ў Аляксандра Цярэшкі некалькі год таму, калі прыйшоў у школу і стаў весці кружок юнага тэхніка. Збіралі машыну з чаго прыйдзецца. У выніку выкарысталі элементы пяці транспартных сродкаў. Калі вясной Аляксандр першы раз выехаў у вёску, то спыняліся ўсе і глядзелі на дзіва.

Такі аўтамабіль з'явіўся ад уласнай беднасці. Аляксандр гаворыць, што ў развітых краінах такога не можа быць у прынцыпе, бо школы там могуць самі купіць уласную тэхніку. А тут прыходзіцца варушыць мазгамі, каб з нічога зрабіць нешта.

Дзецям займацца з тэхнікай цікава. Бывала, сядзелі з гэтай машынай да поўначы. Для дзесятка вучняў праблему вольнага часу Аляксандр Цярэшка вырашыў эфектыўна. Яны ганарацца, што прыклалі руку да падобнага вынаходніцтва, і цяпер працуюць над новымі праектамі.

– Робім матацыкл-байк з шырокімі коламі, каб на ім бяспечна маглі катацца нават малыя. А далей у планах – папоўніць школьную гаспадарку міні-трактарам і джыпам-усюдыходам, – гаворыць Аляксандр.

Як іх зрабіць, настаўнік ужо прыдумаў. Застаецца знайсці, з чаго. Дапамагаюць школьнікі, якія прыносяць металічныя трубкі, пакрышкі, камеры, балты, гайкі.

Аляксандр Цярэшка заўважае, што з вясковымі дзецьмі прасцей – у кожнага ёсць гаспадарка, таму яны прывыкшыя да фізічнай працы. Дома ў іх ёсць многа карыснага. А гарадскі што са сваёй кватэры прынясе? Ды і акрамя камп'ютэраў гарадская моладзь нічым не цікавіцца.

Істотная дапамога ідзе ад Маладзечанскага гарадскога аддзялення Беларускага фонду бяспекі дарожнага руху. На іх штрафной стаянцы па некалькі год гніюць бітыя ці затрыманыя міліцыяй матацыклы і аўтамабілі. Гаспадары ці не знаходзяцца, ці адмаўляюцца забіраць сваю тэхніку. Каб перадаць яе іншым, трэба сабраць шмат дакументаў у суд. Без дапамогі ўладальніка гэтага не зробіш. А яны не зацікаўленыя, бо гэта вядзе да непатрэбных выдаткаў. Тым больш трэба заплаціць пошліну для таго, каб справай займаўся суд.




**На штрафной стаянцы ў Маладзечне гніюць пад адкрытым небам не патрэбныя сваім гаспадарам матацыклы.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Таму аддаюць са штрафной стаянкі толькі безнадзейную тэхніку. У Мыслевічы аддалі самую горшую, але і гэта школьнікі здолелі выкарыстаць. Спраўныя матацыклы можна аддаць у дзіцячыя ўстановы, якія б вучылі падлеткаў вадзіць матацыкл. Але з-за супярэчлівасцяў у заканадаўстве спраўная тэхніка дагнівае на штрафных стаянках рэгіёну.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Што значыць Будслаў без касцёла?

**Чым бы быў Будслаў без касцёла?**

У ранейшыя часы – звычайным мястэчкам, цяпер – не менш звычайным цэнтрам калгаса і сельсавета са стандартным наборам устаноў. Раней касцёл нёс наўкола веру, асвету: працавала духоўная школа, у 1756 годзе адкрылася музычная на 25 месцаў, потым – пачатковая школа і шпіталь. А цяпер агледзець велічны касцёл, што ўзвышаецца над просценькімі хатамі, бы невядома як закінуты сюды асілак, прыязджаюць людзі з розных куткоў Беларусі, ды і з іншых дзяржаў бываюць. А пра фэст 2 ліпеня і гаварыць няма чаго – дзесяткі тысяч людзей прыязджаюць, а шмат хто і пешшу прыходзіць у Будслаў.

Першы касцёл – драўляны – у гэтых мясцінах пабудавалі ў канцы XVI стагоддзя. Праз паўстагоддзя з'явіўся каменны. А той мураваны, што узвышаецца і зараз, пачалі ўзводзіць у 1767 годзе.

## Касцёл

Храм афіцыйна называецца Нацыянальны Санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Санктуарый азначае «святое месца», і каб атрымаць такую назву, у храме мусіць быць святыня. У Будславе гэта цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай. Атрымаў яго з рук папы рымскага Клімента VIII мінскі ваявода Ян Пац. Пасля яго смерці абраз перадалі ў касцёл. У хуткім часе абраз праслаўіўся цудамі і стаў адным з найбольш вядомых у Вялікім княстве Літоўскім. У наш час абраз Маці Божай Будслаўскай быў караваны папскімі каронамі.

Цікавы і стары драўляны алтар. Зроблены ён у сярэдзіне XVII стагоддзя. Кампазіцыі алтара не было падобных на землях ВКЛ і Польшчы. А пад касцёлам маюцца скляпенні. Там раней хавалі фундатараў храмаў, манахаў кляштара – з часам целы ператвараліся ў муміі. Пасля апошняй вайны гэтыя пахаванні былі разрабаваныя, і зараз засталіся толькі тры муміі. Пры жаданні цікаўных пускаюць пахадзіць па скляпеннях, і хоць святло сюды праведзена, экскурсію праводзяць пры свечках – так рамантычней.

Асабліва гэта дзецям падабаецца, а ў дарослых рэакцыя розная бывае. Так, адна немка дзіўна ўспрыняла інфармацыю, што тут хавалі фундатараў касцёла. Потым патэлефанавала, цалкам сур'ёзна пыталася, колькі б гэта трэба заплаціць, каб і яе тут пахавалі!

...Нядзеля. Першая імша, на польскай мове, пачынаецца ў храме а 9-й гадзіне. Народу ў касцёле няшмат: з дзесятак пажылых вернікаў. Іншая карціна у поўдзень, калі ідзе імша па-беларуску, – храм амаль поўны. Тут і бабулькі, і дзятва. У велізарным храме усё велічна-спакойна, гучаць прыгожыя музыка і песні ў выкананні **Тэрэзы Шуман**. Сюды было варта зайсці і толькі дзеля таго, каб пачуць як спевы.

– Я не лічу, што нешта асаблівае раблю: мне проста падабаецца, – гаворыць яна. – Спевы – гэта мая малітва да Бога...

## Людзі

У пачатку мінулага стагоддзя хапала ў Будславе адукаваных людзей. Як толькі ў Вільні пачала выходзіць газета "Наша ніва", пачалі тут яе чытаць, і нават першыя з нашай мясцовасці слаць туды карэспандэнцыі. Пісалі пра жыццё, крытыкавалі землякоў: "Цяпер у Будзе цывілізацыя пала. Кажуць: у Крывічах здумаюць, у Даўгінаве даложаць, а ў Будзе абгавораць".

Адныя з найбольш вядомых будслаўцаў – акцёрка, першая выканаўца ролі Паўлінкі у камедыі Янкі Купалы Паўліна Мядзёлка, гісторык і літаратуразнавец, дзеяч беларускай эміграцыі Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Цяпер большая частка вяскоўцаў працуе ў калгасе "Будслаўскі", адной з мацнейшых гаспадарак на Мядзельшчыне. Шмат хто заняты на прадпрыемстве "Ілаўскае" ў Ілаве, што выпускае віно, сокі, джэмы.

Пройдземся па вуліцах Будслава. На адным падворку кідаецца ў вочы маляўнічы плакат пра злога сабаку. А самы арыгінальны дом у вёсцы ў **Алены і Франца Лаўрыновічаў**. Гаспадар – дальнабойшчык, ездзіць за мяжу і такі праект падгледзеў у былой Югаславіі.

– І што, нічым ён не адрозніваецца ад дома дзе-небудзь ля Белграда? – пытаю ў Алены.

– Практычна нічым: толькі печак там няма, бо цёпла. А так усё такое, і нават слупкі ў плоце падобныя.

А ў сярэдзіне арыгінальна выглядае хата **Юзэфы Альшэўскай**. Пакой можа выклікаць асацыяцыі з мастацкім салонам дарэвалюцыйных часоў: старое фартэпіяна, безліч карцінаў (ад маленькіх да вялікіх), прыгожыя вырабы з дрэва... Гаспадыня доўгі час разам з мужам Антонам працавала для Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Майстравалі з дрэва кубкі, алоўнічкі, шкатулкі... Ён выточваў рэчы, яна па-мастацку іх аздабляла.

Надта любілі гэтую работу. Выраблялі рэч партыямі, вазілі ў Маладзечна, а з фабрыкі іх і за мяжу бралі.

**– Юзэфа Іосіфаўна, адкуль у вас такія здольнасці?**

– Як была малая, то любіла маляваць усялякія мапкі па геаграфіі. А муж, мусіць, нарадзіўся гэткім творцам: здольны быў на ўсю акругу. Такія прыгожыя відзікі маляваў, іграў на мандаліне, гітары, скрыпцы, акардэоне. А з дрэвам працаваць ад бацькі навучыўся: той быў сталяром.

Пражылі разам Альшэўскія паўстагоддзя: усё разам, адна работа была, адны думкі. Сын токарам добрым стаў ("усе крошкі наконт майстэрства ад бацькі пабраў"), дачка і малюе, і спявае. Пра яе – Тэрэзу Шуман – мы ужо згадвалі сёння.

Памёр ужо муж, ды і здароўе ў гаспадыні хаты не тое, каб адной новыя рэчы ствараць, але вырабы, карціны Юзэфа Альшэўская захоўвае:

– Прыйдзе хто: а вы, можа, аддасцё ці прадасцё што? А я гавару – не, кожнае з іх мае ўспаміны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Юзэфа Альшэўская вядомая ў Будславе майстарыха. Драўляныя вырабы мужа і жонкі Альшэўскіх ёсць у замежных калекцыях. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.



Абраз Маці Божай Будслаўскай. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

## Гісторыя Будслава

**У 1504 годзе Вялікі князь Літоўскі і польскі кароль Аляксандр Ягелончык падараваў паселішча Буду віленскім манахам-бернардынцам. Тыя заснавалі тут калонію, праз нейкі час пабудавалі драўляную капліцу. У 1613 годзе ў касцёле з'явіўся абраз Маці Божай. 6 лістапада 1732 года Будслаў згодна з прывілеяй Аўгуста III зацверджаны мястэчкам.**

**У 1917–1920 гг. працавала Будслаўская беларуская гімназія, зачыненая польскімі ўладамі. З 1956 года – цэнтр саўгаса "Будслаўскі" (цяпер калгас).**

**Цяпер у вёсцы 281 двор, 654 жыхары. Моладзі да 15 год – 124 чалавекі, людзей да пенсійнага узросту – 336 і 194 пенсіянеры.**




Усё жывое цягнецца ў Будславе да касцёла. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.



Старадаўні алтар у Будслаўскім касцёле. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

 



■ ПРЫРОДА

## Небяспечнае апалае лісце

Залатая восень – бадай, самая рамантычная пара года. Дол высцілае апалае лісце, якое ўплывае не толькі на наш настрой, але і на якасць паветра ў населеных пунктах.

Справа ў тым, што лятучыя арганічныя рэчывы, якія, напрыклад, пахнуць хвояй, сенам, пры рэакцыі з вокісламі азоту ўтвараюць смог. У выніку хімічных рэакцый паміж фітанцыдамі з апалага лісця і транспартнымі выкідамі ўтвараецца галоўны кампанент смогу – трансферны азон (знаходзіцца да 100 дзён). Гэты газ правакуе абвастрэнне астмы, рэспіраторных захворванняў, зніжае нашае супраціўленне інфекцыям.

Такім чынам, каб засцерагчыся ад непрыемнасцей, трэба або зніжаць транспартную нагрузку на населеныя пункты або вывозіць апалае лісце за іх межы, што, дарэчы, у нас і практыкуецца. І яшчэ: па інфармацыі з інспекцыі па ахове прыроды спальваць лісце ў гарадах проста забаронена! Варта нагадаць, што за вегетацыйны перыяд на лісцях асядае шмат свінцу, іншых цяжкіх металаў, а таксама небяспечных транспартных і прамысловых забруджвальнікаў. На ўласных падворках, калі няма магчымасці вывезці апалае лісце, выкарыстоўвайце яго як сыравіну для прыгатавання кампосту. Гэта проста, выгадна і больш бяспечна.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ АДУКАЦЫЯ І ЭКАЛОГІЯ

# «Малыя» справы «Віты»

**МАЛАДЗЕЧНА. "Я вісеў на дрэве, але вельмі мала. А цяпер сплю. О, я няшчасны! Мне цяпер так сумна ляжаць аднаму. Хутка мяне змятуць мяцёлкай і мяне не будзе. Наступіць зіма, я замерзну ў смецці і прападу. Бывайце".**

Гэта ліст у экалагічную пошту, з чарговым выпускам якой можна азнаёміцца з мінулага тыдня. Штогод такое мерапрыемства наладжваюць у СШ №5. Навучэнцы пішуць лісты. Але не ад свайго імя, а ад імя рэчкі, лісціка, дрэва, птушкі. Такім чынам прыцягваюць увагу аднагодкаў да экалогіі, вучаць правілам паводзін. Настаўнікі гавораць, што гэта эфектыўна. Летась у школьным лясніцтве прайшла "эпідэмія" крадзяжоў птушыных кармушак. Таму ў пошце большасць лістоў была ад імя птушак, якія вымушаныя галадаць з-за злодзеяў, якія ўкралі кармушкі. Падзейнічала. Крадзяжы зменшыліся.



Шасцікласнікі СШ №5 Маладзечна Лёша Бычок і Паша Баслык ужо год уваходзяць у школьную экалагічную арганізацыю "Віта". Кожную суботу ідуць працаваць у школьнае лясніцтва. Прываблівае магчымасць у натуральных умовах вывучаць звычкі птушак і звяроў. У Лёшы любімыя птушкі – сокал, арол і ластаўка. Яны самыя хуткія і спрытныя. А Пашу падабаецца перапёлка за яе грацыёзнасць і незвычайныя звычкі: гнёзды яна робіць у зямлі.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Школьная экалагічная арганізацыя "Віта" існуе два гады. У яе ўваходзяць школьнікі 4-8 класаў, якія падзелены на 4 атрады. Пры школе ёсць сваё лясніцтва, дзе за тры гады юныя эколагі пасадзілі 45 тысяч саджанцаў дрэў, сабралі 15 кілаграмаў лекавай сыравіны. Школьнікі таксама вырошчваюць агародніну на сваім доследным участку. Частка ўраджаю ідзе ў школьную сталовую, частку прадаюць у раённую бальніцу, выручка папаўняе школьны бюджэт. Сёлета падарылі 15,5 кілаграма агуркоў дзіцячаму саду №34.

А ў кастрычніку ў рамках рэспубліканскай акцыі "Малым рэкам – вялікі клопат" вітаўцы добраўпарадкавалі тэрыторыю ля Ушы: прыбралі смецце і пасадзілі 24 бярозкі. Напярэдадні раздалі лістоўкі жыхарам навакольных дамоў з просьбай паўдзельнічаць у акцыі. Ніхто не адгукнуўся.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДАСЛЕДАВАННІ

## Горная рака ў рэгіёне

**Восенню сябры Маладзечанскага экалагічнага аб'яднання "Крыніца" правялі даследаванне стану ракі Гадзея, што ў Маладзечанскім раёне.**

Нягледзячы на даўжыню ўсяго ў 12 кіламетраў, перапад вышынь Гадзеі паміж яе вытокам і вусцем складае 62,4 метра! А такія перапады – норма для горных рэчак, а не для Беларусі.

Пачынаецца рака ў Трапалаве з крыніцы ў лажбіне насупраць дарожнага знака "4 км" у амфітэатры з высокіх узгоркаў. Тут жа знаходзіцца і жывёлагадоўчая ферма. Цікавая гісторыя ўтварэння і самой даліны Гадзеі. Калі фронт Сожскага ледавіка, што адступаў, ужо знаходзіўся далёка на поўначы, у раёне Трапалава яшчэ існавала ізаляванае "мёртвае" ледзяное поле, якое таяла і зрабіла потым шлях рэчцы. Ля вёскі Талуі знаходзіцца першая на Гадзеі сажалка. На дамбе цясніліся дванаццаць машын рыбаловаў. Было бачна, што нехта тут жа і памыў сваё аўто. У падобных сітуацыях трэба рэагаваць і самім рыбакам, калі хочуць быць з рыбай. Рэчка маленькая, і нагрузка на яе і так празмерная. Ля вадазліву цвіла вада, што для гэтай пары года – з'ява даволі рэдкая.

Рэкі Беларусі маюць пераважна снегавое і дажджавое сілкаванне. За сухое і спякотнае лета шмат рэчак і каналаў абмялела. Але Гадзея трымаецца на падземных водах. Гэтаму дапамагаюць лес ля яе вытокаў і забалочаны ўчастак ля Маркава. Участак калісьці быў меліяраваны, але каналы пазарасталі і пачаўся працэс другаснага, паўторнага забалочвання. Што, у нашым выпадку, нядрэнна.

Сажалка ў Маркаве мае плошчу 0,04 кв.км. Вадазліў ідзе праз верхнюю частку вады. Перамешваецца яна добра, і цвіцення няма. Хоць малюскі-лужанкі, ракавінамі якіх высцілаецца дно вадаёма, могуць жыць як у чыстай, так і ў бруднай вадзе. За Маркавам заканчваюцца апошнія ўзгоркі Ашмянскага ўзвышша, і Гадзея "знаходзіць" сваю першую і адзіную надпойменную тэрасу. Яна ўразаецца ў карэнны бераг на 2-3 метры. Пойма меліяраваная і залужаная. Цячэнне ракі стромкае. Але "разгуляцца" патоку не даюць зараслі кустоў і вербаў на берагах. Ніжэй вёскі Кавальцы тэраса губляецца сярод суцэльных меліяраваных палёў. Тут рака ператвараецца ў звычайную канаву. Вусце Гадзеі знаходзіцца ля вёскі Вяжуці, дзе яе воды зліваюцца з водамі Ушы. Водаахоўнай зоны у 50 метраў, якая б гаспадарча не выкарыстоўвалася, па ходу маршруту нідзе не выяўлена.

Рака, на берагах якой знаходзяцца чатыры вёскі, жывёлагадоўчыя фермы, дарогі, палі, вытрымлівае надзвычай вялікую нагрузку ад дзейнасці чалавека. Гадзея эксплуатуецца для паліву, як зборнік меліярацыйных водаў і бытавых адходаў, дзве сажалкі на ёй – зоны адпачынку і месца лоўлі рыбы.

Рэчка жыве пакуль насуперак чалавеку. А трэба ж, каб яна жыла па волі чалавека і для чалавека і прыроды. Інакш, якія ж мы з вамі тады гаранты?

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ АТМАСФЕРА

## «Дзіравы парасон» Зямлі

Атмасферны азон выступае ў двух ролях. Станоўчай, калі ён знаходзіцца ў стратасферы (на вышыні 15-30 км), і адмоўнай, калі знаходзіцца ў трапасферы (слой паветра, якім мы дыхаем). Увогуле, калі ўсе малекулы азону прывесці да нармальнага ціску, то таўшчыня азонасферы ля паверхні зямлі складала б усяго 3 мм! Між тым гэты надзвычай тонкі "парасон" мае выключнае значэнне ў жыцці нашай планеты.

Стратасферны азон узнікае ў выніку фотахімічных рэакцый. Сярэдняя "працяглаcць жыцця" гэтых малекул складае ад некалькіх гадзін да некалькіх сутак. Трапасферны ж азон, які з'яўляецца ядам і непажаданай прымессю, "жыве" да 100 сутак і ўтвараецца ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека. Яго найбольш над гарадамі, хімічнымі камбінатамі, там, дзе шмат транспарту. Але найбольш хутка разбураюць гэтае злучэнне яловыя лясы, і асабліва насаджэнні з ядлоўцу. Хочацца дадаць, што павелічэнне канцэнтрацыі азону ля паверхні зямлі, якое назіраецца ў апошні час, вядзе да паражэння тканак лёгкіх у чалавека і жывёл і мае таксічны эфект.

А вось азон, які знаходзіцца ў стратасферы, ратуе чалавецтва ад уздзеяння біялагічна актыўнага ўльтрафіялетавага выпраменьвання. Павелічэнне яго патоку УФ-Б аўтаматычна прыводзіць да павелічэння выпадкаў раку скуры, хвароб вачэй, мутацыі ДНК у раслін і жывёл. Асабліва церпяць ад апошняга прасцейшыя арганізмы (бактэрыі, планктоны), якія з'яўляюцца асновай харчовага ланцужка ўсёй планеты. Стойкае змяншэнне канцэнтрацыі азону ў стратасферы, якое адбываецца ў апошні час, ужо зараз павялічвае колькасць захварэўшых ракам скуры ў Аўстраліі на адзін працэнт у год.

Малекулы азону вельмі добра паглынаюць цеплавое выпраменьванне. І тут мы назіраем наступную карціну: трапасфера, дзе азону становіцца ўсё больш, награваецца, а стратасфера, дзе азону становіцца ўсё меней, астывае. Разам гэтыя з'явы вядуць да так званага "парніковага эфекту". Каб уявіць, што гэта такое, прыгадайце тэлекарцінкі паводкі ў Заходняй Еўропе, на Каўказе і ў Кітаі. Ёсць тэндэнцыя да глабальнага змянення клімату.

Самымі небяспечнымі ў стратасферным азоне з'яўляюцца вокіслы азоту, вадароду, метан і асабліва фрэоны, злучэнні хлору і фтору, якія прымяняюцца ў халадзільных устаноўках. Фрэоны бесперапынна разбураюць азон, самі "жывуць" да 80-100 гадоў, таму вывядзенне іх з атмасферы даволі праблематычнае. Менавіта фрэоны маюць дачыненне да "азонавай дзіркі" над Антарктыдай.

З 1950 года выкід фрэонаў у паветра ўзрос у 300 разоў. Варта нагадаць, што фрэоны ў працэсе разбурэння азонавага слоя самі з'яўляюцца каталізатарамі. Гэта значыць, нікуды не знікаюць. Каб захаваць азонавы слой, шэраг краін з 1985 года узяў на сябе абавязацельствы выключыць выкарыстанне фрэонаў у сваёй прамысловасці.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ МІНУЛАЕ

## Ледніковы музей

Тое, што рэльеф нашага краю сфармаваны леднікамі, ведаюць, напэўна, усе. Бачнымі "візітоўкамі" гэтага з'яўляюцца валуны. Дарэчы, іх запасы у Маладзечанскім раёне складаюць да 300 тысяч кубаметраў.

Найбольш паўплывала на рэльеф Маладзечанскага раёна перадапошняе Сожскае абледзяненне, якое пачалося прыкладна 220 тысяч гадоў таму і працягвалася 110 тысяч гадоў. У выніку ўзніклі Ашмянскае і Мінскае канцавыя ўзвышшы і Вілейская водна-марэнна-ледніковая раўніна.

Ляднік пры наступленні і таянні праводзіў вялікую работу. Ён, як бульдозер, сунуў перад сабой грунт, у выніку чаго ўтварыліся канцавыя напорныя грады, якія можна бачыць ля вёсак Соўлава, Лужаны. Калі разам сыходзіліся 2 ледніковыя языкі, то ўтвараліся найбольш магутныя ўзгорыстыя вуглавыя масівы, напрыклад, Радашковіцкія грады.

У ледніку ўтвараліся азёры і катлаваны, якія запаўняліся рыхлым матэрыялам. Пасля таяння лёду гэты матэрыял у выглядзе крывабокіх узгоркаў асядаў на зямлю і ўтвараў так званыя камы. Іх у вялікай колькасці можна бачыць ля Трапалава. А даліна Заходняй Бярэзіны ўтварылася з-за таго, што талыя ледніковыя воды не мелі сцёку і прарвалі "плаціну" канцавых марэнных узвышшаў.

А вось рэльеф поўначы Маладзечанскага раёна сфармаваўся галоўным чынам талымі водамі апошняга Паазёрскага ледавікоўя, якое скончылася ўсяго 10 тысяч гадоў назад.

**Алег БЯГАНСКІ.**

 

■ ЭКСПЕРЫМЕНТ

# Этнашкола – прыклад для іншых

**ВІЛЕЙКА. 27 лістапада споўніцца 4 гады з моманту прэзентацыі эксперыментальнай педагагічнай пляцоўкі “Этнашкола” на базе пачатковай школы № 6.**

Але гэта далёка не адзіны і не галоўны профіль навучання. Тут працуюць харэаграфічныя, мастацкія, агульнаэстэтычныя класы. Школа з’яўляецца рэдкім прыкладам гарадской адасобленай пачатковай школы са сваім будынкам і адміністрацыяй. Аб правільнасці існавання падобных пачатковых школ, асобных ад сярэдніх, са сваім адаптыўным адукацыйным асяроддзем і ўмовамі для захавання здароўя дзяцей выказаўся намеснік міністра адукацыі **Казімір Фарыно**. Гэткі падыход знаходзіць шмат прыхільнікаў сярод настаўнікаў і бацькоў. Падабаецца гэта і дзецям.

З новага навучальнага года школу ўзначаліў **Мікалай Іваненка**. Да гэтага ён працаваў намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце. Намеснікамі дырэктара працуюць **Святлана Бяргаліна** і **Таццяна Чаховіч**.

Сярод дасягненняў школы ў выхаванні М. Іваненка называе з’яўленне ў дзяцей творчай смеласці. У іх няма закамплексаванасці пры выхадзе на сцэну. Дзеці ўпэўненыя, што яны здатныя да ўсяго. Дзіця можа творча разважаць, не баіцца спрачацца з настаўнікам. Развіццё творчасці дае разумовы штуршок. На думку С. Бяргалінай, кожнага вучня трэба выхаваць у асобу праз развіццё таленту, і гэта атрымліваецца. Сюды прыходзяць звычайныя дзеці. Вядома, усе яны не стануць мастакамі і артыстамі, але ўсе будуць умець маляваць і спяваць.

Адасобленасць пачатковай школы прыводзіць да таго, што ўся матэрыяльная праца, усе спецыялісты і ўсе службы скіраваныя на працу з адной узроставай групай. У звычайнай сярэдняй школе больш увагі надаецца старэйшым класам.



Трэцякласнікі Максім Валасюк і Юля Даўгіх пайшлі ў этнаклас пачатковай школы № 6, таму што тут вучаць іграць на музычных інструментах, мастацтву вуснага слова, можна займацца танцамі, вышыўкай, выцінанкай, саломкай, арнаментам, роспісам па дрэве, аплікацыяй, маляваннем, акрабатыкай. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Школа сутыкаецца з агульнымі праблемамі сістэмы адукацыі. Сярод іх М. Іваненка называе фінансавыя, кадравыя. Востра паўстае праблема зніжэння колькасці дзяцей. Летась у школе навучалася 264 вучні, а сёлета – 212. Замест пяці выпушчаных класаў набралі толькі два новыя. Шмат складаных сем’яў, у якіх дзеці недагледжаныя. Зніжаецца інтарэс да навучання на беларускай мове.

Але школа даволі папулярная. Бацькі, якія разумеюць, што пачатковая школа закладае падмурак адукацыі, што найбольшая ўвага да дзіцяці ў працэсе навучання патрэбна ў першыя гады вучобы, спыняюць свой выбар на пачатковай школе № 6. У **Мікалая Баўцюка** дачка Ганна вучыцца ў рускамоўным класе з вывучэннем англійскай мовы. На яго словах, на выбар школы паўплывалі станоўчыя водгукі знаёмых аб добрым стаўленні да дзяцей з боку педагагічнага калектыву, зручная структура будынка ранейшага дзіцячага сада, якая дазваляе ізаляваць рознаўзроставыя класы, адсутнасць старшакласнікаў, кантактная адміністрацыя, у супрацоўніцтве з якой эфектыўна рашаюцца праблемы.

Выпускнікі вельмі любяць сваю пачатковую школу. Па словах акампаніятара **Валянціны Шчучко**, яны літаральна ходзяць пад вокнамі. **Валерый Шчогалеў**, кіраўнік ансамбля беларускіх музычных інструментаў, лічыць, што ў маленькай школе, якая захавала аўру дзіцячага сада, дзеці адчуваюць сябе як дома. Цяпер у школе чатыры этнакласы, па тры агульнаэстэтычныя і мастацкія, адзін харэаграфічны і адзін агульнаадукацыйны клас. Усе вучні па жаданні бацькоў маюць магчымасць вывучаць замежную мову. Агульнаадукацыйная праграма дапаўняецца прафілюючымі прадметамі, таму заняткаў у дзяцей шмат. Але перагрузкі няма, бо расклад прадугледжвае змену відаў дзейнасці. У метадыцы шырока выкарыстоўваецца гульня. У школе працуюць групы падоўжанага дня.

Некаторыя бацькі мэтанакіравана прыводзяць дзяцей у этнаклас таму, што навучанне вядзецца па-беларуску. В. Шчучко лічыць, што вельмі важна навучаць беларускай культуры з малога ўзросту. М. Іваненка кажа, што на генным узроўні дзеці вельмі добра ўспрымаюць і беларускую мову, і беларускі фальклор. У этнакласе дзеці лепш ужываюцца, няма непрыязнага стаўлення адзін да аднаго, атрымліваецца адзіны калектыў. Сярод асноўных патрабаванняў да настаўнікаў этнакласаў вылучаюцца індывідуальны падыход да кожнага дзіцяці, стварэнне сітуацыі поспеху, выхаванне на хрысціянскіх прынцыпах дабрыні.

Адміністрацыя плануе стварыць школьны музей этнаграфіі і фальклору па тыпу сялянскай хаты, бо дзецям трэба не толькі расказваць, але і паказваць.

26 лістапада на базе пачатковай школы № 6 пройдзе рэспубліканскі навукова-практычны семінар. Ён праводзіцца з мэтай распрацоўкі і ўдасканалення метадыкі навучання дзяцей у эксперыментальным курсе “Этнашкола”. Цяпер у рэспубліцы налічваецца больш 10 эксперыментальных педагагічных пляцовак “Этнашкола”. Нядаўна адна з іх з’явілася на Маладзечаншчыне, у Лебедзеўскай сярэдняй школе. В. Шчогалеў лічыць вельмі патрэбным працяг этнанавучання ў звычайнай школе. Можа, з цягам часу з’явяцца паўнавартасныя этнашколы з выхаваннем на нацыянальных каштоўнасцях.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ПРЫЗНАЧЭННІ

# Новы загадчык – з новымі ідэямі

**ВІЛЕЙКА. Пра сябе і сваю работу расказвае Уладзімір Бадзееў, які з сярэдзіны кастрычніка ўзначаліў раённы аддзел адукацыі.**

**– З якім настроем пакінулі школу?**

– Чацвертай школе аддаў 15 гадоў жыцця. Па выніках 2001 года яна заняла першае месца сярод гарадскіх школ вобласці. Я прырос да калектыву, да дзяцей. Таму пры расстанні адчуваў страту дарагога. Не хачу адрывацца ад школы поўнасцю – 11-класнікі самі папрасілі мяне выкладаць гісторыю. Гэта я і раблю па суботах.

**– У якім стане прынялі аддзел адукацыі?**

– Каб аб’ектыўна даведацца аб стане на цяперашні момант, я наведаў усе гарадскія і каля паловы сельскіх школ. Да мяне зроблена вельмі шмат. Але шмат стаіць і задач. Найперш, гэта ўзмацненне матэрыяльна-тэхнічнай базы. Ацяпляльны сезон пачаўся са складанасцямі, бо абсталяванне ў кацельнях старое. За час маёй працы ўжо замянілі некалькі катлоў.

**– Якія накірункі працы з’яўляюцца прыярытэтнымі?**



Загадчык Вілейскага раённага аддзела адукацыі Уладзімір Бадзееў. Па адукацыі настаўнік гісторыі. Пасля заканчэння Магілёўскага педагагічнага інстытута ў 1979 г. настаўнічаў на Вілейшчыне. Быў дырэктарам Нарачанскай СШ і СШ №1. 15 апошніх гадоў – першы і нязменны дырэктар самай вялікай у горадзе СШ № 4.

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

– Я ўзяў за аснову тры накірункі: вучэбны, выхаваўчы працэс і матэрыяльна-тэхнічная база. Буду старацца кіраваць калектывам так, каб максімальна рашаць задачы ў розных накірунках. На цяперашнім этапе я займаюся больш пытаннямі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

На нарадзе я ўбачыў разуменне маіх падыходаў з боку кіраўніцтва установ адукацыі. Магчыма, задачы стаўлю жарсткавата. Думаю, будзе падтрымка і сумеснымі намаганнямі будзем вырашаць праблемы, якія перад намі стаяць.

**– Якія ўбачылі праблемы з фінансаваннем?**

– У рашэнні гаспадарчых пытанняў, якія патрабуюць фінансавання, я праблем не знайшоў. Заробак за верасень выплачаны. На два месяцы наперад аказана матэрыяльная дапамога. Магчыма, таму, што я малады кіраўнік, магчыма, таму, што сістэма адукацыі з’яўляецца вядучай галіной, разуменне я знаходжу на ўсіх узроўнях.

**– Ці праўда, што Вы хочаце стварыць фонд загадчыка аддзела адукацыі за кошт адлічэнняў 2% ад зарплаты настаўнікаў?**

– Гэткая думка ёсць. Мы прапрацоўвалі яе са старшынямі прафсаюзных арганізацый калектываў. Навошта фонд? Я лічу, што загадчык павінен мець гэткі фонд. Папершае, каб заахвочваць дырэктараў і настаўнікаў, падругое, на віншаванні са святамі, па-трэцяе, на жалобныя мерапрыемствы, па-чацвертае, на паездкі для розных катэгорый педагагічных работнікаў. Гэты фонд неабходны больш працоўным калектывам, а не мне.

Прафсаюзы на гэта глядзяць станоўча. Я абмеркаваў гэта са старшынёй райкома прафсаюза настаўнікаў Уладзімірам Жуком. Гэтым пытаннем цяпер больш займаюцца прафсаюзы, чым я.

**– З чаго пачалі працу на новай пасадзе?**

– Я паспрабаваў унікнуць не толькі ў праблемы сістэмы адукацыі, але і ўсяго раёна. Першапачатковую задачу бачу ў дасягненні разумення падначаленымі маіх падыходаў, прынцыпаў працы. У бліжэйшы час пастараюся наведаць усе школы раёна, каб на месцы пазнаёміцца з праблемамі.

**– Што азначаюць тамы прац Леніна на паліцах у Вашым кабінеце?**

– Я тут нічога не мяняў. Усё засталося ад папярэдняга кіраўніка. У гэтых тамах таксама ёсць шмат карыснага, калі ўважліва чытаць. Цяпер рамантуецца новы кабінет з прыёмнай. Неўзабаве пераеду туды.

**– У Вілейцы на базе пачатковай школы № 6 працуе эксперыментальная пляцоўка “Этнашкола”. Як ставіцеся да гэтага эксперыменту?**

– СШ № 4 працуе супольна з этнашколай ужо два гады. Гэтага не было б, калі б я не быў прыхільнікам. Дзеці ў гэту школу ідуць самі і займаюцца з вялікім інтарэсам. Тут створаны добрыя ўмовы для навучання. Па меры магчымасці я буду старацца развіваць гэты накірунак. Менавіта я ў свой час ініцыяваў, каб дзіцячы сад стаў школай. Напачатку гэта быў філіял СШ № 4. Потым яна займела іншы статус. Думаю, што гэта правільна. Этнашкола – установа цікавага тыпу. За досведам прыязджаюць з іншых рэгіёнаў. Наяўнасць сваёй адміністрацыі і спецыялістаў дазваляе сур’ёзна займацца гэтым накірункам. Тады можна дасягнуць мэты. Іначай нічога не атрымаецца.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Калі пад капотам кіпіць тасол

**Нямногія ведаюць, што да перагрэву і нават разрыву бачка можа прывесці, здавалася б, "дробязь" – няспраўны корак залішне шырокага бачка ці недастатковы ўзровень ахаладжальнай вадкасці. На рухавіках з механічным прыводам вентылятара (старыя савецкія аўтамабілі) пры абрыве ці недастатковым нацяжэнні паса генератара матор можа перагрэцца з-за таго, што вентылятар працуе не на поўную магутнасць. Калі ж пас у парадку, гэтая сістэма рэдка прыносіць сюрпрызы.**

А вось уладальнікі аўтамабіляў з электрычным прыводам вентылятара і яго аўтаматычным уключэннем павінны трымаць вуха востра. Асабліва гэта тычыцца "вазаўладальнікаў". Справа ў тым, што пры сапсаваным датчыку ўключэння вентылятара (прычына часта бывае ў банальнай адсутнасці кантакту) матор застаецца без ахаладжвання. Прычым зусім не абавязкова, што датчык сапсуецца летам, – кантакты раз'ём можа згнісці яшчэ ў лютым, але ж зімой матор не грэецца! А вось першы ж гарачы дзянёк у горадзе з яго абавязковымі заторамі прывядзе да перагрэву матора. Гэта небяспечна яго заклінoўваннем і дэфармацыяй галоўкі блока цыліндраў.

Калі датчык сапсуецца, то можна падключыць вентылятар напрамую, міма "аўтаматыкі" – пры гэтым вентылятар будзе круціцца пастаянна, але гэта лепш, чым калі б ён зусім не працаваў. Бывае і так, што датчык быццам бы працуе, але ўключае вентылятар, калі стрэлка ўжо зусім наблізілася да чырвонай зоны. Звязана гэта з настройкай самога датчыка, якая можа быць неаптымальнай для канкрэтных умоў эксплуатацыі. Канешне, можна пастуліць проста – замяніць датчык. Аднак намнога прасцей зрабіць прымусовую схему ўключэння вентылятара: паралельна заводскай схеме далучаецца тумблер, які ўстанаўліваецца ў зручным месцы. Цяпер вадзіцель можа самастойна ўключыць вентылятар у любы момант, не чакаючы, пакуль стрэлка папаўзе ў чырвоную зону. Асабліва гэта зручна ў горадзе: як толькі намеціўся затор, можна задзейнічаць вентылятар, і можаце быць спакойныя – матор не перагрэецца. А калі вадзіцель забудзецца пераключыць, то некалькі пазней гэта зробіць "аўтаматыка". Вось у чым перавага захавання заводскай схемы! Да таго ж яе пажадана аснасціць святлавым індыкатарам – напрыклад, задзейнічаць на шчытку прыбораў рэзервовую лямпу.

Не менш важна і непашкоджанасць самога паказальніка тэмпературы. Бывае, што з-за пераходных супраціўленняў у электраправодцы ён "маўчыць", і вадзіцель нават не падазрае, што матор ужо нагрэўся і вось-вось "закіпіць". Словам, давярай, але правярай рабатаздольнасць датчыка – зрабіць гэта можна з дапамогай магазіна супраціўленняў, падаючы на вывады пэўную нагрузку, і параўнаць паказанні ўказальніка з "эталоннымі" ў інструкцыі па эксплуатацыі. Да прыкладу, пры супраціўленні датчыка 640-1320 Ом у ВАЗе-2108 стрэлка паказальніка тэмпературы павінна знаходзіцца ў пачатку шкалы, пры супраціўленні 77-89 Ом – у пачатку чырвонага ўчастка, а пры 40-50 Ом – адхіляцца да канца шкалы чырвонага ўчастка. Бывае, што падводзіць не праводка, а механічная частка паказальніка (закліньвае стрэлка). Выйсце у гэтай сітуацыі адно – замена прыбора.

А што рабіць, калі матор вось-вось перагрэецца? Галоўнае, не панікаваць і ні ў якім выпадку не глушыць рухавік, бо гэта прывядзе да яшчэ большага павышэння тэмпературы і цеплавога ўдару. Насупраць, трэба каб матор застаўся працаваць, але пры гэтым знізіць нагрузку да мінімуму і павялічыць цыркуляцыю ў сістэме адкрыццём крана ацяпляльнай сістэмы. Калі электравентылятар уключаецца прымусова, можна задзейнічаць і яго, а таксама падняць капот. Каб магутныя энергаспажыўцы (вентылятары "печкі" і радыятара) не "пасадзілі" батарэю, абароты матора лепш павялічыць прыкладна да 2000, што палепшыць цыркуляцыю ахаладжальнай вадкасці ў маторы. Хутчэй за ўсё, ужо праз некалькі хвілін стрэлка паказальніка тэмпературы вернецца на месца. Калі ж няма магчымасці спыніцца (напрыклад, на пад'ёме), трэба прарабіць усе гэтыя аперацыі і пераключыцца на нізшую перадачу – павышаныя абароты палепшаць "тасолаабарачэнне" і зменшаць нагрузку на дэталі матора.

Адзначым, што небяспечны не толькі перагрэў, але і проста моцны нагрэў матора – пры павышэнні тэмпературы да 100 градусаў і вышэй у матора меншае цяга, ён дэтаніруе, і што горш за ўсё, яго рэсурс пры гэтым зніжаецца. Значыць, трэба пазбягаць не толькі "закіпання" рухавіка, але і яго працяглай работы ў стане, калі стрэлка паказальніка набліжаецца да чырвонай зоны, хаця "сэрца машыны" пакуль яшчэ працуе.

Перагрэву матора можна пазбегнуць простымі метадамі.

**Алег ПАЛАЖЫНЕЦ.**




**Ахаладжальная вадкасць - не дробязь. Калі закіпіць тасол, часта бывае вельмі позна дапамагаць свайму сябру на колах.**

Фота IREX/ProMedia

■ СТАНЦЫЯ ТЭХАБСЛУГОЎВАННЯ

## Асноўныя няспраўнасці дызеляў легкавых аўтамабіляў

**Многія, калі набываюць дызельны аўтамабіль, звяртаюць увагу толькі на нізкі расход недарагога паліва. Пры гэтым яны забываюць пра аб'ектыўна вялікія затраты на эксплуатацыю і рамонт, хаця гэтага трэба чакаць.**

Няспраўнасці можна разбіць на наступныя групы па прычынах узнікнення:

- канструктыўна-вытворчыя недахопы ці асаблівасці рухавіка;
- некваліфікаванае абслугоўванне і няправільная эксплуатацыя;
- нізкая якасць дызельнага паліва;
- "натуральны" знос рухавіка і палівападавальнай апаратуры;
- нізкая якасць рамонту і запасных частак.

Разгледзім найбольш распаўсюджаныя мадэлі дызельных рухавікоў менавіта з пункту гледжання пералічаных праблем.

### Канструктыўна-вытворчыя фактары

Адразу зробім паметку, што ўсе дызельныя рухавікі дастаткова надзейныя, а недахопы, звязаныя з іх канструкцыяй ці тэхналогіяй вытворчасці, праяўляюцца, як правіла, у цяжкіх умовах эксплуатацыі і пры прабегах, якія перавышаюць назначаны заводам рэсурс ці блізкі да яго. І ніяк інакш, бо ў адваротным выпадку спешчаныя добрай тэхнікай і сервісам замежныя спажыўцы даўялі б да галечы заводы-вырабляльнікі судовымі іскамі. А вось у Расіі дызельная іншамаркі якраз і сутыкаюцца з цяжкімі ўмовамі эксплуатацыі, да таго ж у іх даволі вялікі прабег, што і выяўляе ўсе канструктыўныя недапрацоўкі.

Трэшчыны ў галоўцы – даволі распаўсюджаны дэфект дызеляў VW.

Рухавікі фірмы VW, да прыкладу, маюць галоўку блока цыліндраў, у якой часта выяўляецца шмат дэфектаў. Так, у ёй нярэдка ўтвараюцца трэшчыны. Завод-вытворца нават дапускае эксплуатацыю з міжсядзельнымі трэшчынамі шырынёй да 0,5 мм.

Апроч гэтага, нярэдкія выпадкі выпадзення форкамер, якія прыводзяць да пашкоджанняў рухавіка. А гэта ўжо патрабуе сур'ёзнага рамонту. Да ўсяго іншага, прылівы пад мацаванні форкамер слабыя, і пры неакуратным зняцці ці ўстаноўцы фарсунак адразу ламаюцца. Канструктыўнае выкананне рэдукцыйнага клапана масленай помпы рухавікоў VW няўдалае, і нярэдкія выпадкі яго заклінoўвання з наступным "раздзіманнем" і разбурэннем масленага фільтра і поўнай стратай змазкі пры халодным пуску, асабліва ва ўмовах нізкіх тэмператур. Згаданае, праўда, не адносіцца да помпаў шасціцыліндравых рухавікоў D24, у якіх прымяняюцца шасцерні з унутраным счапленнем і іншая канструкцыя рэдукцыйнага клапана.

**Георгій ЦВЕЛЕЎ.**

**Працяг будзе.**

■ ШАФЁРСКІЯ БАЙКІ

## Перагнаў

Гэта было са мной светлым летнім днём 1992 года на Украіне на трасе Данецк–Марыупаль. Дарогу калісьці будавалі па асабістаму загаду Брэжнева, таму якасць яе добрая – 120 кіламетраў двухпалоснага руху у кожны бок з раздзяляльным газонам пасярэдзіне. Той, хто жадае, можа добра-такі разагнацца! На маю бяду, я не ведаў месцаў, дзе зазвычай хаваюцца даішнікі.

Радары былі пашыраныя не так, як сёння ... Карацей, дазволеную хуткасць на сваёй дзевятцы я перавысіў будзь здароў. Праўда, на ВАЗ-2109 з рухавіком 1,3, двума пасажырамі "Формулу–1" нават тэарэтычна не дагоніш. Я так меркаваў.

І вось на прамым участку, калі я ехаў дзесьці пад 120, з супрацьлеглага боку дарогі з замаскіраванай у кустах пяцёркі выскоквае інспектар, хутка перабягае дарогу, пераскоквае газон і на ўвесь імпэт ківае мне жэзлам. Спыняюся – няхай яно ўсё добра будзе!

– Вы перавысілі хуткасць!

– Не можа быць?!

– Пройдзем да машыны.

Падыходзім да пяцёркі. Міліцыянер паказвае мне радар. На дысплеі гараць лічбы 317. Я пытаюся:

– Гэта што, я як знішчальнік на пасадку заходзіў?

– Гэта ў нас замест адзінкі тройку выбівае.

**Дзмітрый ЖАЛЯЗНЯК.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## ЗАЗ–966

Гэтыя мікралітражныя аўтамабілі з двухдзверным кузавам седан і заднематорнай кампаноўкай са спецыфічнымі акруглымі "вушамі" паветразаборнікаў, абліцоўкай пярэдняй панелі ў выглядзе невялікай рашоткі а-ля ГАЗ-24 выпускалі на Запарожскім аўтамабільным заводзе "Камунар" (Украіна) з 1966 года па 1972.



V-падобны чатырохцыліндровы рухавік паветранага ахаладжвання выкананы падоўжана ў блоку з каробкай перадач і трансмісіяй. Першае паказанне пад індэксам ЗАЗ-966В з адпаведнымі літарамі спецыяльных мадыфікацый для інвалідаў адрознівалася маламагутным рухавіком МеМЗ-966 рабочым аб'ёмам 887 куб. см і магутнасцю 30 к. с. з малым мотарэсурсам (усяго 50 тыс. км да капрамонту) і частымі яго перагрэвамі летам. На ЗАЗ-966 (1,2 л, 40 к.с.) з 1968 года прадугледжваліся месцы пад умацаванне пярэдніх рамянёў бяспекі. Пакрышкі 6,15-13 (рэдкага цяпер дыяганальнага тыпу). З 1979 года выпускалі рухавік МеМЗ-966Г з аналагічнай МеМЗ-968 сістэмай ахаладжвання і павялічаным рэсурсам (з 50 тыс. да 100 тыс. км), які можна выкарыстоўваць для замены больш ранніх мадыфікацый.

Спрадвечна недахопы ў вытворчасці не ўхіляліся. Праблема недаўгавечнасці тэксталітавай шасцерні прыводу (рэсурс усяго 60-80 тыс. км прабегу) не была ліквідавана і на наступных мадэлях. На рынку цяпер у асноўным сустракаюцца варыянты мадэлі 966Б (з тых, што на ходу) для інвалідаў, хаця бывае і з невялікім прабегам (іншыя даўно згнілі ці дагніваюць на задніх дварах правіцельных гарадоў). Цэны, вядома, нікчэмныя.

■ ЮБІЛЕІ

# «Пілігрыму» – 25 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра а 17-й гадзіне ў музычным вучылішчы пачнецца свята, прысвечанае 25-годдзю з дня ўтварэння турыстычнага клуба "Пілігрым".**

Акрамя ўрачыстай часткі з віншаваннямі і падарункамі гледачы ўбачаць канцэрт з танцамі і песнямі. Заспявае і прэзідэнт клуба **Сяргей Бялкоў**. Некалькі вядомых у горадзе людзей атрымаюць пасведчанне ганаровых членаў клуба. Хто канкрэтна, арганізатары не гавораць. Хочуць зрабіць сюрпрыз.

Арганізаваны турызм у горадзе з'явіўся ў пачатку 70-х гадоў. Першы катэгарыйны турысцкі паход быў у 1972 годзе пад кіраўніцтвам **Еўдакіі Пагарлецкай**, якая і па сённяшні дзень займаецца турызмам.

Афіцыйна клуб аб'ядноўвае 36 турыстаў. Але ў мерапрыемствах пад эгідай клуба удзельнічаюць штогод каля дзвюх тысяч чалавек. Пілігрымаўцы збіраюцца не толькі ў паходах. Па серадах яны прыходзяць у клуб. Святкуюць разам Сусветны дзень турызму, 8 Сакавіка, Новы год. Святы праходзяць весела, з конкурсамі і спаборніцтвамі. Прыкладам, на гэты Новы год бегалі вакол клуба з лыжамі ў руках.

### Сяргей Бялкоў не ведаў пра путч

Прэзідэнт клуба Сяргей Бялкоў адзіны ў горадзе і раёне майстар спорту па турызму. Быў на Карпатах, Цэнтральным, Усходнім і Заходнім Каўказе, горным Алтаі, возеры Байкал, пустыні Каракумы, на Паміры, узыходзіў на Эльбрус.

Найбольш уразіў Алтай. Леднікі пакінулі вялізнае ўражанне сваёй даўжынёй у 5-7 кіламетраў і таўшчынёй у дзесяткі і сотні метраў. Цікавы від прыроды з вышыні, таму узыходжанне на Эльбрус С. Бялкоў запомніць на ўсё жыццё.

Большасць паходаў за межы Беларусі праводзілася ў савецкі час. Тады працей было з грашамі. Пра знакаміты путч у Маскве ў жніўні 1991 года даведаўся толькі праз некалькі тыдняў. Якраз у гэты час падарожнічаў па Алтаі. У пачатку жніўня ехалі праз Маскву. Пабылі ў гарах, на адваротным шляху сустрэлі нямецкіх турыстаў. Тыя спыталіся, ці чулі пра тое, што Гарбачоў ужо не прэзідэнт, а на вуліцах Масквы стаяць танкі. Беларусы страшэнна здзівіліся. Але калі ехалі дадому праз Маскву, то там ужо танкаў не было.

Цяпер большая частка паходаў разлічваецца ў межах Беларусі. Маршрут зацвярджаюць з мэтай затраціць найменш сродкаў. Сяргей Бялкоў марыць пабываць ў Пінску, дзе ёсць адзіны ў Беларусі драўляны веласіпед, ў салігорскіх шахтах, у Мікашэвічах, дзе ёсць мармуровы кар'ер, у Тураве.

Але і цяпер выязджаюць пілігрымаўцы за межы Беларусі. Сёлета муж і жонка **Каняевы** ўзышлі на Арарат, групы турыстаў былі ў Крыме і Цэнтральным Каўказе. Гэтыя паходы грунтуюцца на энтузіязме і сродках саміх турыстаў. Такіх, як **Аляксей Корсак, Юрый Лужынскі, Ірына Шавярнёва, Аляксандр Страх, Міхаіл Есьмановіч, Іна Высоцкая, Аксана Свярская, Аляксандр Траццякоў**.



Прэзідэнт турыстычнага клуба "Пілігрым" Сяргей Бялкоў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Аляксандр Кісцень: Будзе шкада згубіць каманду

**МАЛАДЗЕЧНА. Аб выніках мінулага сезона расказвае галоўны трэнер "Маладзечна-2000" Аляксандр Кісцень.**

**– Ударнай атрымалася канцоўка. Каманда спецыяльна рыхтавалася да гэтых матчаў?**

– Многія нас дачасна "пахавалі". У той жа рэспубліканскай федэрацыі, адчувалася, рабілі стаўку на віцяблян. Але я быў упэўнены, што ў асабістай сустрэчы мы іх пераможам. У гэтым пераконваў папярэдні кубкавы матч, на які ездзілі ледзь не дублюючым складам. Дарэчы, стаўленне федэрацыі да "Лакаматыва-96" змянілася пасля скандальнай гульні ў Бабруйску. Напрыклад, суддзейства нашага матча ў Віцебску было добрым, па-сапраўднаму нейтральным.

Мы асабліва настройваліся на тры апошнія гульні. На жаль, сустрэчу з брэстаўчанамі "правалілі", яна была адной з горшых у сезоне. Гульцы, як кажуць, "перагарэлі", дапускалі шмат памылак (відавочцы кажуць, што каманда пасля перапынку дзіўным чынам "спынілася" ў плане функцыянальнай падрыхтоўкі – аўтар). Але перад сустрэчай у Віцебску настрой быў ашаламляльны. Гэта адлюстравалася ў выніку матча.

**– Якімі асабіста для Вас былі гэтыя месяцы?**

– Прыйшлося вельмі цяжка ў псіхалагічным плане. Шмат крытыкавалі, дарэчы, і ў вашай газеце таксама. Каманда ж стваралася літаральна з нуля. Пры гэтым мы дастойна выглядалі ў многіх матчах, напрыклад, у дамашніх з "Дняпром-Трансмашам", жодзінцамі, мінскім "Дынама". У бой ішлі зусім недасведчаныя **Пятроўскі, Азява**, той жа **Дрозд**. Прыходзілася ставіць у абарону **Азаронка**. Прапусціў з-за дыскваліфікацыі чатыры матчы **Сідарэнка**. Наколькі прасцей было б нам, калі б не падвёў Мураўейнікаў, які пакінуў каманду ўсяго за некалькі дзён да старта другога круга. Азаронак, Сідарэнка і **Сысой** таксама вызначыліся са сваімі планамі толькі ў апошні тыдзень. Дзякуй ім, што засталіся ў камандзе. Пакрысе змест гульні паляпшаўся. Увесь цяжар гэтага другога круга вынеслі на сабе ўсяго 11-12 чалавек.



Галоўны трэнер "Маладзечна-2000" Аляксандр Кісцень.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**– Хто вылучаўся ў ролі лідэра каманды?**

– Так, абаронцы Пятроўскі, Азява, Дрозд дапускалі памылкі, але ў 18-19 гадоў без гэтага не абысціся. У мяне духу не хапала на кагосьці з іх накрычаць, папракнуць. Добра дзейнічаў у канцоўцы Лявончык, якога на старце круга мы таксама не далічыліся з-за армейскіх справаў, дапамог камандзе **Мятліцкі**. У якасці лідэраў адзначу Азаронка, **Карпіленку, Макрыцкага, Сысоя** і **Дараховіча**. Пра варатароў можна сказаць, што **Рубацкі** нядрэнна глядзеўся да матча з "Тарпеда-МАЗам" на фінішы першага круга. Потым асноўным галкіперам стаў **Сцепановіч**. Ну і Рубацкі выцягнуў на сабе дзве апошнія, вырашальныя сустрэчы сезона.

**– У першым крузе набрана 7 ачкоў, у другім – 5. Былі б тыя ж 5 у першым крузе, каманда ўсё роўна засталася б на 13 месцы. Магчыма, трэба было рабіць стаўку на моладзь спачатку чэмпіянату?**

– Ну...У Румбуціса былі свае погляды.Усё ж такі тыя сем чалавек, што пакінулі каманду між кругамі, былі больш дасведчанымі гульцамі, больш моцнымі ў спартыўным плане. Напрыклад, Міхалёў і Мігас увайшлі ў асноўны склад "Тарпеда-МАЗа", які да апошняга прэтэндаваў на медалі. З іншага боку, другі круг паказаў, што незаменных няма. На пазіцыі Бычкоўскага згуляў Пятроўскі, на пазіцыі Мігаса – **Лявончык** ... Крыху па-новаму раскрыўся ў цэнтры поля Карпіленка, адчулі сябе лідэрамі каманды Макрыцкі і Дараховіч. Наогул, малады футбалісты сталі дзейнічаць больш разняволена.

**– Ці ёсць навіны наконт будучага?**

– Зараз нічога не магу сказаць. Хлопцы займаюцца ў разгрузачным рэжыме дзвюма групамі: у Мінску і ў Маладзечне. Належных грошай не атрымалі. Нават перад агульнакамандным сходам-банкетам у мінулую пятніцу ніякіх выплат не было. Чакаем. Зразумела, што ў гарадскіх уладаў могуць быць куды больш неадкладныя праблемы, але ж нам ад гэтага не лягчэй. Будзе вельмі шкада страціць цяперашнюю каманду. Ніхто ж не просіць звышумоваў. Да прыкладу, цяперашняя месячная зарплата, якую прыходзіцца чакаць, прыкладна роўная 200 тысячам рублёў.

У футбалістаў ёсць прапановы, і мы другі раз на працягу года можам не далічыцца палловы склада. А замяняць ужо няма кім, бо дублёры завяршылі свой чэмпіянат на апошнім месцы.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ БАСКЕТБОЛ

## Дзіцячая ліга

Смаргонскія дзяўчаты 1989 г.н. перамаглі ўсіх трох сваіх сапернiц на стартавым туры ў Мінску.

У хлопцаў 1989 г.н. рэгіён прадстаўлены трыма камандамі. Усе яны трапілі ў адну з дзвюх падгруп. Гулялі ў Маладзечне. Месцы размеркаваліся наступным чынам: 1. СДЮШАР-1 (Смаргонь). 2. СДЮШАР-10 (Мінск). 3. СДЮШАР-4 (Віцебск). 4. СДЮШАР-1 (Маладзечна). 5. Пяршаі (Валожын). Цяпер смаргонцы прымуць дома шасцёрку мацнейшых 27-30 студзеня, а маладзечанцы і валожынцы паедуць у той жа час у Гомель на матчы слабейшай чацвёркі.

Такая ж самая і формула спаборніцтваў для хлопцаў 1988 г.н.. Нашых землякоў жэрабя раскідаў па розных падгрупах. У Маладзечне месцы размеркаваліся так: 1. СДЮШАР-10-І (Мінск). 2. СДЮШАР (Магілёў). 3. СДЮШАР-1 (Маладзечна). 4. БМЗ (Жлобін). 5. СДЮШАР-4 (Віцебск). "Гімназія" з Валожына выступала ў Мінску і стала апошняй. Маладзечанцы паедуць у Гомель 19-22 снежня змагацца ў мацнейшай шасцёрцы. У той жа час валожынцы згуляюць у слабейшай шасцёрцы ў Віцебску.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Табло**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні прайшло першынство Мінскай вобласці сярод хлапчукоў 1989-1991 г.н.

Удзельнічалі 4 каманды. У камандным заліку перамагла каманда горада Маладзечна. Зборная Маладзечанскага раёна стала апошняй. З 10-ці вагавых катэгорый у 8-мі перамаглі гаспадары. Найбольш паспяхова выступілі выхаванцы маладзечанскіх трэнераў Антона і Дзяніса Найлаўцоў, якія занялі 6 першых месц, 2 другія і 3 трэція.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ ВАЛЕЙБОЛ

МЯДЗЕЛ. Праведзены Кубак раёна сярод мужчын. Сабралася восем каманд, якія разбіліся на дзве групы. Пераможцы сустрэліся ў фінале. "Зубронак" аказаўся мацней за "Камарова". Лік 2:0, але барацьба ішла ўпартая.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**22-23 лістапада, Мядзел, СШ№2**

Занальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці па валейболе сярод мужчын. Мяркуецца ўдзел каманд Вілейскага, Лагойскага раёнаў, горада Маладзечна, Маладзечанскага, Мядзельскага раёнаў.

**23-24 лістапада, Маладзечна**

Фінальны турнір адкрытай спартакіяды Мінскай вобласці сярод цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы. Пройдуць спаборніцтвы па валейболе (жанчыны, політэхнічны каледж), валейболе (мужчыны), аэробіцы (абодва – гандлёва-эканамічны каледж), мініфутболе (ЗМК), настольным тэнісе (СШ№14). Адкрыццё 23 лістапада ў 15-00.

**25 лістапада, 17-30, Маладзечна, більярдны клуб "Караліна"**

Жараб'ёўка і пачатак 1-га адкрытага чэмпіянату горада па більярдным спорце "Піраміда".

 



# ВІНШАВАНКІ

З жамчужным вяселлем!
**Станіславу Канстанцінавічу**
**і Антаніне Іосіфаўне Алянцэвічам**
Любімыя нашы! Ад усёй душы, з павагай і пяшчотай віншуем вас з 30-годдзем сумеснага жыцця! Зычым усяго самага лепшага.

Пусть волшебница-жизнь
на жемчужный поднос
Долголетия чашу поставит.
В эту чашу здоровья и счастья нальет,
Любви, радости также добавит.
И чтоб это питье вам пить до ста лет,
Разбавляя удачей и дружбой,
И тогда ваша жизнь обойдется без бед,
Будет яркой, насыщенной, нужной.
*Дочкі, зяці, унучка Яна.*

Віншуем любімага сына **Аляксея Жукоўскага** з 18-годдзем! Жадаем шчасця, кахання, поспехаў у вучобе. Няхай цябе заўсёды Бог аберагае і ласку шчодра пасылае. *Мама і тата.*

Віншуем з 25-годдзем **турысцкі клуб "Пілігрым"** з Маладзечна! Жадаем поспехаў, новых цікавых маршрутаў. *Куранецкая СШ, турклуб "Аист".*

З 18-годдзем віншуем **Аляксея Жукоўскага**! Пусть несчастье и горе обойдут стороной, только радости море и мы рядом с тобой. *Саўчыцы.*

Дарагога ўнучыка **Алёшку Жукоўскага** віншуем з 18-годдзем! Жадаем здароўя, моцнага кахання, шчасця і ўсяго найлепшага. *Тваe дзядуля і бабуля.*

**Таццяну Рыгораўну Ігнатовіч** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, даўгалецця, няхай лёс дорыць радасць, аберагае ад усялякіх бед. *Жаўняровічы.*

Сардэчна віншуем **Марыю Іванаўну Баран** з днём нараджэння! Жадаем бадзёрасці, моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця. *Жанна і Саша.*

**Ганначка Чарненка**, з днём нараджэння! Здароўя, удачы, шчасця, шанцавання і добрых сяброў табе, сонейка. *Рэгіна.*

Віншую **Святлану Тарыма** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, кахання, удачы. Будзь шчаслівай! *Рэгіна.*

З днём нараджэння **Святлану Гудебскую**! Здароўя, кахання, удачы, грошай. *Рэгіна.*

**Таццяне Цітковай**. З днём нараджэння! Удачы, кахання, шчасця, здароўя, шанцавання. *Рэгіна.*

Віншую з днём нараджэння **Ніну Грыневіч**! Няхай заўсёды будзе с табой зорка шчасця. *Рэгіна.*

Віншуем з днём нараджэння **Кацярыну Васільеўну Пірог**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, бадзёрасці і даўгалецця. *Дачка і ўнук Дзіма.*

**Жанна Малевіч**! Віншуем з 45-годдзем! Жадаем здароўя, поспехаў ва ўсім, заставацца жыццярадаснай. *Цалуем. Клава, Міша.*

**Любові Аляксандраўне Сыракваш**. Дарагая і любімая наша, шчыра віншуем! Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, захаваць на доўгія гады маладосць духу і выдатныя чалавечыя якасці. *Дзеці, зяць, нявестка, унукі.*

Віншуем з днём нараджэння **Жанну Уладзіміраўну Малевіч**! Пусть твоя жизнь счастливой будет, удача улыбнуться не забудет. *Сябры, АП №4.*

Віншуем **Васю Цара** з Маладзечна з 7-годдзем! Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе, усяго найлепшага.



Взрослеешь ты из года в год
И в непогоду, и в ненастье!
Будь добрым к людям ты,
Расти здоровым, умным всем на счастье.
*Хросныя тата і мама.*

Віншуем галоўнага бухгалтара
ЗАТ «Струм»
**Галіну Іванаўну Казакевіч** з юбілеем!



Гады пражыты недарэмна —
Іх плён адметны для людзей.
Вітаць Вас шчыра нам прыемна
У гэты знамянальны дзень.
Часцей жадаем усміхацца,
Па дробязях не засмучацца,
Не нервавацца, не хварэць,
Шчаслiва жыць і не старэць.
*Аляксей і Людміла Стацкевічы.*

Віншуем хросную маму
**Галіну Іванаўну Казакевіч** з юбілеем!
Няхай жыццё квітнее буйным цветам,
І нараджэння дзень прыходзіць зноў і зноў.
А доля няхай дорыць з кожным годам
Здароўе, шчасце, радасць і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды.
*Віка і Артур.*

**Жанна Малевіч**, віншуем з юбілеем! Жадаем усяго найлепшага, кахання, здароўя. *Сямья Русовічаў, муж.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Каспяровіч**! Жадаем шчасця, здароўя, удачы і поспехаў ва ўсім. *Марына, Дзіма, г. Вілейка.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога нам чалавека **Фёдара Уладзіміравіча Лабуна**! Здароўя, даўгалецця, радаснага жыцця. *Сем'і Кодзісаў, Завацкіх.*

**Лідзе Дземяшкевіч**. Желаем счастья, здоровья, добра, чтоб беды, невзгоды сгорелі дотла. *Твая сям'я, Каця.*

**Жэня Матукевіч** з Гродна! Віншую цябе з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе. *Каця.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з сапраўдным мужчынам 47-58 год, без шк/зв., з МПВ просьба не турбаваць. 222410, Вілейка-4, ОЕ №007415.

51/163. Прыемная жанчына пазнаеміцца з прыемным мужчынам для сяброўства. Маладзечна-7, п/п МС 0823657.

Пазнаёмлюся з жанчынай 40-50 год, рост 160-165 см, добрай, прыстойнай, сур'ёзнай, якая жадае жыць у прыватным доме. Маладзечна-1, п/п МС 0085181.

Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з мужчынам да 40 год. Алёна, 33/176/80, в/а, без шк/зв., сыну 11. З МПВ просьба не турбаваць. 222310, Маладзечна-3, п/п №0001704.

Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з жанчынай 30-38 год. Маладзечна-6, п/д НБ №3247069.

## Купон 47

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ ТЭАТР

# «Батлейка» шукае зваротную сувязь

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 снежня 2002 года а 17-й гадзіне ў тэатры лялек "Батлейка" адбудзецца пасяджэнне "За круглым сталом".**

Да гэтай падзеі мы пачалі рыхтавацца ўжо зараз. Ва ўтульным фае тэатра з'явілася "Скарбонка дзядзечкі Батлея" — куфэрак для прапаноў і заўваг нашых гледачоў.

Да цяперашняга часу тэатр выносіў на суд гледачоў свае спектаклі, а да прамой размовы з дарослымі і дзецьмі не звяртаўся. Цяпер нам вельмі хочацца ведаць, што вы думаеце, што вам хочацца бачыць, што вам хочацца пажадаць нам у далейшай рабоце, якія заўвагі можаце выказаць наконт нашага тэатра.

Прапануем вам, нашы шаноўныя гледачы, пытанні анкеты, адказы на якія мы чакаем з заміраннем сэрца. **Наш адрас: вул. Драздовіча, 5-В, тэатр лялек "Батлейка".** З паметкай на канверце "У скарбонку Дзядзечкі Батлея".

# АНКЕТА

1. Узрост ______
2. Ігралі Вы самі ў тэатры (гурток, народны тэатр і г.д.) ______
3. Як Вы думаеце, якую ролю ў выхаванні дзяцей павінны адыгрываць тэатр лялек? ______
4. Ці патрэбны тэатр лялек у цяперашні час ці наведванне тэатра — гэта проста згублены час? ______
5. Як Вы лічыце, тэатр лялек — гэта тэатр для дзяцей, для ўсёй сям'і, для дарослых? ______
6. Ці памятаеце Вы сваё першае наведванне тэатра лялек "Батлейка"? Якія ўражанні ў Вас захаваліся з тых часоў? ______
7. Калі Вы апошні раз наведвалі наш тэатр? ______
8. Які спектакль нашага тэатра Вам больш за ўсё спадабаўся і чаму? ______
9. Які спектакль выклікаў у Вас больш за ўсё адмоўных эмоцый і чаму? ______
10. Якія пажаданні і заўвагі Вы маглі б выказаць у адрас нашага тэатра? ______
11. Каго з акцёраў нашага тэатра Вы запомнілі больш усяго і па якіх спектаклях? ______
12. З якіх сродкаў масавай інфармацыі Вы атрымліваеце сведкі аб рэпертуары тэатра (газеты, радыё, афішы і г.д.)? ______
13. Найбольш зручныя для Вас дні тыдня і час для наведвання нашага тэатра ______
14. Якая Ваша любімая казка? ______
15. На якой мове Вам хацелася б бачыць нашы спектаклі? ______
16. Якія спектаклі Вы хацелі б убачыць у пастаноўцы нашага тэатра? ______
17. Ці хацелі б Вы, каб дні нараджэння Вашых дзяцей праходзілі ў святочнай абстаноўцы ў памяшканні тэатра лялек пры ўдзеле нашых артыстаў і лялек? ______
18. Ці хацелі б Вы, каб Вашы дзеці займаліся ў тэатральнай студыі пры тэатры лялек "Батлейка"? ______
19. Вашы водгукі ______

**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" выказвае вам удзячнасць за садзеянне.**

# Кінатэатр «Радзіма»



**22-24 лістапада.** Маладзёжная камедыя **"Сцерва"**, ЗША – у 17.00 і 21.00. Фільм пра бесперапынныя няўдачы на любоўным фронце. Захапляльны баявік **"Антыкілер"**, Расія – у 19.00, 23 і 24 лістапада – у 15.00 і 19.00.
**25 лістапада-1 снежня.** Вострасюжэтны баявік **"Ролербол"**, ЗША – у 17.00 і 21.00. Выкрыццё карупцыі і здрадніцтва – гэта небяспечная гульня, а любая памылка ў ёй – смяротная. Непрадказальны трылер **"Пароль "Рыба-меч"**, ЗША – у 19.00. Падключайцеся, уводзьце пароль і ўваходзьце ў сістэму кібернетычнага напружання.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**
23 лістапада – **"Краіна малпаў"**, Францыя, прыгоды – у 13.00.
24 лістапада – **"Прыгоды Ікабода"**, ЗША, мультыплікацыя – у 13.00.
2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА "Медыум". У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – для моладзі. У 17.00 у суботу і нядзелю — для школьнікаў.
З 25 лістапада кінатэатр "Радзіма" і дыскатэка "Медыум" прымае заяўкі на правядзенне калядных і навагодніх ранішнікаў. Вас чакае сустрэча з Дзедам Марозам і Снягурачкай, шмат прызоў і сюрпрызаў.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ІМЯНІНЫ

**22 лістапада**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Антона, Івана, Кірылы.
**Каталіцкія**: Марка.

**23 лістапада**
**Праваслаўныя**: Арэста, Георгія, Канстанціна, Радзівона, Эраста.
**Каталіцкія**: Феліцыты.

**24 лістапада**
**Праваслаўныя**: Сцепаніды, Вікенція, Віктара, Лукі, Максіма, Сцяпана, Фёдара.
**Каталіцкія**: Флоры, Яна.

**25 лістапада**
**Праваслаўныя**: Івана, Ніла, Спірыдона.
**Каталіцкія**: Катарыны.

**26 лістапада**
**Праваслаўныя**: Антаніна, Германа, Івана, Нічыпара.
**Каталіцкія**: Катарыны, Кандрата, Лявона.

**27 лістапада**
**Праваслаўныя**: Піліпа, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Валяр'яна, Віргіліуша, Юзафа, Язэпа.

**28 лістапада**
**Праваслаўныя**: Дзмітрыя.
**Каталіцкія**: Здзіслава, Рыгора, Якуба.

■ ТВАЁ ІМЯ

# Іван – чалавек шырокай натуры

Іван – распаўсюджанае рускае імя. Носьбітам яго можа аказацца і разумненькі пайхлопчык, і шумны забіяка.

Ваня заўжды "себе на уме", у яго характары злучаюцца сіла і храбрасць, дабро і каварства, пяшчотнасць і нястрымаиая раз'юшанасць. Ён праяўляе настойлівасць у задуманым, часта ідзе напралом. І не дзіўна, што часам за крок да таго, як мэта будзе дасягнута, Іван раптам робіць круты паварот у бок. Ён дэманструе поўнае раўнадушша да таго, што яшчэ 5 мінут назад складала, як здавалася, сэнс яго жыцця.

Людзям з імем Іван належыць шырыня натуры, што адбіваецца таксама на разнастайнасці захапленняў, настрою і планаў. Каго толькі не сустрэнеш сярод Іванаў! Іван можа быць вядомым камбайнерам, вучоным ці не менш вядомым п'яніцам і прагульшчыкам. Іван адкрыты і чулы, ён заўжды ў курсе спраў сваіх братоў і сёстраў, цётках і дзядзькаў. На сямейныя святы звычайна збірае ўсю сваю радню. Ён дбайна захоўвае сямейныя традыцыі. Любіць шырокія застоллі. Шумна рэагуе на футбольныя матчы, сочыць за палітычнымі падзеямі.

Тая жанчына, якая выйдзе замуж за Івана, павінная памятаць, што яе чакае трохі бесшабашнае жыццё. Дом Івана заўсёды адкрыты, у ім адчуваюць сябе камфортна бацькі жонкі і бацькі Івана, сябры і калегі. Іван адносіцца да людзей проста і даверліва. Ён даволі-такі гібкі, але разам з тым можа быць і ўпартым, калі справа тычыцца кроўных інтарэсаў – яго асабістых ці членаў яго сям'і. Іван даражыць шлюбам, але гэта зусім не азначае, что ён адмовіцца ад магчымасці паспрабаваць свае мужчынскія чары на адной з сябровак жонкі. Быццам бы і не раўнівы, аднак на заляцанні да яго жонкі можа адрэагаваць зусім непрадказальным чынам.

Іван любіць дамашнія справы, але работу выконвае ў асноўным "мужчынскую". У грашах не скупы. Дзеці абажаюць Іванаў-бацькоў.

 

